


# БАЙРАМ

КВАРТАЛЬНІК БЕЛАРУСКАГА ЗГУРТАВАННЯ
ТАТАРАЎ-МУСУЛЬМАН "АЛЬ-КІТАБ"

1998 ВЫПУСК 1

بسم الله الرّحمن الرّحيم

# Байрам

## ТАТАРЫ НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ

КВАРТАЛЬНІК БЕЛАРУСКАГА ЗГУРТАВАННЯ
ТАТАРАЎ-МУСУЛЬМАН "АЛЬ-КІТАБ"

№ 1
Мінск 1998

РЭДАКТАРСКАЯ ГРУПА:

Ісмаіл АЛЕКСАНДРОВІЧ,
Яўген ГУЧОК,
Ібрагім КАНАПАЦКІ,
Якуб ЯКУБОЎСКІ

Выдадзены коштам
Дзяржаўнага камітэта
па справах рэлігій і нацыянальнасцей

Рэдакцыя таксама выказвае
шчырую ўдзячнасць
РАМУАЛЬДУ САБАЛЕЎСКАМУ
за фінансавую падтрымку выдання



بسم الله الرّحمن الرّحيم

## У імя Аллага Міласцівага, Міласэрнага!

***Салям алейкум, спадары і спадарыні, супляменнікі-татары, усе мусульмане!***

Чалавечая памяць мае ўласцівасць адны падзеі надоўга, амаль на ўсё жыццё захоўваць, адвольна ці па жаданні чалавека ўзнаўляць, а большасць з'яў і падзей, якія ты бачыў год таму, не засталіся, як бы сцёрліся. Гадавыя дзяржаўныя, мусульманскія святы, святы пост Рамазан успамінаюцца. Успамінаюцца людзі, з якімі ты размаўляў, і аб чым была гаворка. Толькі чалавек жыве не дзеля юбілеяў, іншых святаў. А дзеля чаго? Калі запытаць у многіх людзей, рознага ўзросту, рознага вопыту, адукацыі, то атрымаеш адказы: "Не ведаю", "Даў Бог жыццё, дык Ён і ведае для чаго", "Жыццё чалавеку дадзена для шчасця". А што ж такое шчасце? У "Тлумачальным слоўніку беларускай літаратурнай мовы" (Мн., 1996) сказана: "Шчасце — стан і пачуццё поўнай, найвялікшай задаволенасці". Шчасце прыходзіць да кожнага чалавека, толькі не ў кожнага яно жыве доўга. Ці то ён сам вінаваты, што не зберог яго, ці нейкія абставіны, а то і непрыяцелі абрабавалі.

Мусульмане-вернікі ведаюць, як стаць шчаслівым і зберагчы шчасце на ўсё жыццё як на гэтым, часовым свеце, так і ў жыцці, якое настане пасля Суднага дня.

Мусульманін ведае, што найвялікшую задаволенасць, найвялікшае шчасце адчувае, калі выконвае абавязкі мусульманіна ці хоць бы імкнецца, каб гэтыя абавязкі выканаць найлепшым чынам.

Прачнуўшыся, мусульманін прамовіць "Ля іляга ілля-ллах, Мухаммаду-ррасулю-ллах", памыецца (прыме абдэсь), прамовіць пра сябе нійет, колькі разоў паводле абавязковага правіла выканае фарз (фард) і паводле Сунны зробіць паклон Аллагу, пры гэтым прамаўляючы адпаведныя аяты з Кур'ана. Пяць разоў у суткі мусульманін моліцца Аллагу і перад кожнай

малітвай прымае абдэсь, бо без абдэся малітва будзе несапраўднай: Аллаг яе не прыме.

Памаліўшыся і паснедаўшы, падзякаваўшы Аллагу за яду, памыўшы рукі, мусульманін ідзе на працу: ці то на прадпрыемства, на будоўлю, ва ўстанову, ці то на поле, ці то на свой агарод.

Увесь час вучобы ў школе, іншай навучальнай установе мусульманін выконвае нійет, які заключаецца ў тым, каб ён сумленнай працай заслужыў добрую адзнаку, добра працаваў, дапамог чалавеку ў яго клопатах, справе. Толькі ў такім выпадку мусульманін лічыць сябе шчаслівым.

Вялікае шчасце для мусульманіна, калі ён далікатны з усімі людзьмі, з кім узаемадзейнічае ў суседстве — ці то на рабоце, вучобе, ці то па месцы жыхарства. Калі мусульманін згодна з правіламі мусульманскай маралі паводзіць сябе ў адносінах да сваіх бацькоў, да радні і сваякоў.

Здзейсніўшым свой абавязак, а значыць шчаслівым мусульманін адчувае сябе тады, калі бачыць, што выгадаваў добрых дзяцей, дачакаўся ўнукаў і спадзяецца, што яны, калі на то будзе воля Аллага (іншалла), будуць добрымі мусульманамі.

Мець добрых дзяцей — гэта непараўнальна большае шчасце, чым матэрыяльнае багацце, знаходжанне на прэстыжнай, каралеўскай пасадзе.

Вельміпаважаныя чытачы! Слова "мусульмане" тут ужываецца часта дзеля таго, каб фраза была карацейшай. Бо перш за ўсё трэба казаць "мусульманка". Яна мае большае права на шчасце, чым мужчына-мусульманін. І адчувае яго, калі ў яе народзіцца дзіця, калі ёсць у яе малако, і яна можа натуральна карміць дзіця, калі дзіця не хварэе, а захварэўшы, хутка вылечыцца.

Вялікае шчасце быць здаровым, мець добрых дзяцей, выконваць свой абавязак — абавязак мусульманіна.

***Салям алейкум!***

Лісты і адказы пішыце на адрас па-руску:
220131, г. Минск, а / я 116. Редакции журнала «Байрам».



# КУР'АН

## *Сура дзевятая — Аттаўба (Пакаянне)*

**81.** І цешыліся за спіной пасланніка тыя, якія засталіся дамаседамі. Ім цяжка было ваяваць, ахвяруючы сваёй маёмасцю і сваім жыццём на шляху Аллага, і казалі яны: «Не хадзіце (у паход) у такую гарачыню! «Скажы:» Але пякельны агонь будзе яшчэ гарачэйшы!» О, калі б толькі ўразумелі яны.

**82.** Але няхай яны крыху пасмяюцца, бо ім прыйдзецца многа плакаць, у адплату за тое, што яны ўчынілі.

**83.** І калі Аллаг верне цябе да гэтых людзей, і яны пачнуць у цябе прасіць, каб ты дазволіў ім з табою выступіць (у паход), скажы: «Вы ніколі са мною не пойдзеце і ніколі не будзеце са мною (у адным страі) біцца з ворагам. Вам у першы раз даспадобы было быць дамаседамі — сядзіце ж з тымі, хто (і на гэты раз) пажадае адсядзецца».

**84.** І ніколі ні аб адным з іх, хто памёр, не маліся і (на малітву) пры яго магіле не ўставай бо ў Аллага і Яго пасланніка яны не верылі, і бязбожнікамі пакінулі гэты свет.

**85.** І няхай не дзівіць цябе ні іх маёмасць, ні іх дзеці — імі Аллаг хоча ў гэтым свеце пакараць, каб у нявер'і іх душы адышлі.

**86.** Калі была паслана Сура: «Верце ў Аллага і ваюйце (у адным страі) з Яго пасланнікам», — то тыя з іх, якія за іншых больш багатыя сваёй маёмасцю, просяць цябе вызваліць іх (ад паходу) і кажуць: «Пакінь нас (тут), мы будзем з тымі, хто дамаседы».

**87.** Яны задавальняюцца тым, што застаюцца дамаседамі. На іх сэрцы накладзена пячаць, і пазбаўлены яны ўсякага разумення.

**88.** Але і пасланнік, і тыя, хто з ім увераваў, шчыруюць (на промысле Аллага) усім сваім сэрцам і маёмасцю сваёю. Усе даброты — ім! І толькі яны блажэнныя.

**89.** Аллаг ім сады прыгатаваў, акружаныя рэкамі, дзе ім вечна знаходзіцца, — і гэта ёсць вялікая асалода.

**90.** І былі сярод арабаў-бедуінаў тыя, хто, просячы прабачэння, прыходзіў цябе прасіць вызваліць (ад паходу), і ўхіліліся ад паходу таксама тыя, якія лічылі ілжывымі Аллага і пасланніка Яго. Але тых з іх, хто не ўвераваў, спасцігне суровая кара.

**91.** Але няма віны тых, хто слабы ці хворы, або хто (з прычыны беднасці сваёй) траціцца не можа (на шляху Аллага), калі яны шчырыя перад Аллагам і пасланнікам Яго. І ніякіх няма падстаў быць супроць тых, хто чыніць дабро.

**92.** Няма і ў тых (віны), якія, прыйшоўшы да цябе, просяць забяспечыць патрэбным (транспартам) для паходу, пачуць ад цябе: «Я не магу знайсці, на чым накіраваць вас». Яны адыходзяць, і вочы іх напаўняюцца слязамі журбы, што няма ў іх (маёмасці) на патрэбнае для паходу.

**93.** Ёсць падставы вінаваціць толькі тых, якія заможныя, але просяць у цябе пакінуць іх, задавальняючыся сядзець з дамаседамі. Аллаг наклаў пячаць на іх сэрцы, і таму яны не ведаюць (у чым — дабрадзейства, у чым — зло).

**94.** Яны перад вамі будуць прасіць прабачэння, калі вы вернецеся да іх (з паходу). Скажы: «Не прасіце прабачэння! Мы не верым вам! Аллаг ужо паведаміў нам аб сапраўднасці вашых імкненняў. І Ён, а таксама Яго пасланнік будуць сачыць за вашымі справамі. Пасля вы будзеце вернуты да Таго, Каму



адкрыта тайнае і яўнае ведома. Тады Ён вам прадставіць усё, чым (на зямлі) вы грашылі».

**95.** Калі вы вернецеся да іх, яны будуць бажыцца, каб вы пакінулі іх у спакоі. І таму пакіньце іх у спакоі, бо яны мярзота, і прыстанішча ім — пекла як адплата за тое, што яны самі ўчынілі раней.

**96.** І бажыцца яны будуць таму, каб вы былі літасцівымі да іх. Але калі вы будзеце літасцівымі да іх, Аллаг не можа быць задаволены разбэшчанымі людзьмі.

**97.** Яшчэ больш закаранелі ў бязвер'і і двудушнасці сваёй арабы-бедуіны — хто яшчэ больш схільны заставацца ў няведанні таго, што Аллаг падараваў пасланніку Свайму. Аллаг Усявед, Мудры (бязмерна)!

**98.** Сярод арабаў-бедуінаў ёсць такія, хто свой падатак (закят) за пеню (штраф) лічыць і чакае-выпільноўвае цяжкіх паваротаў у вашым жыцці. У іх жыцці будзе цяжкі паварот! Аллаг, сапраўды, усё чуе і ўсё ведае!

**99.** Але ёсць сярод арабаў-бедуінаў і такія, хто верыць у Аллага і Судны дзень і хто падатак свой лічыць за той дар, што іх да Аллага набліжае і робіць вартымі малітваў Яго пасланніка. О так! Гэта, сапраўды, набліжае іх (да Яго). Ён у Сваю міласць іх вядзе! Сапраўды, Аллаг ёсць Той, Хто прабачае і літасцівы!

**100.** Апярэдзілі іншых (у прыняцці Ісламу) тыя, якія першымі (пакінуўшы свае дамы) перасяліліся (у чужыя краі), і тыя, якія далі ім (хлеб і дах), і тыя, якія пайшлі ўслед за імі чыніць дабро. Яны — да вялікага задавальнення Аллага, і для іх задавальнення — Аллаг. Ён прыгатаваў ім Сады, рэкамі амытыя, дзе ім вечна знаходзіцца, і гэта ёсць вялікая асалода!

**101.** А сярод іншых арабаў-бедуінаў, што акружаюць вас або (пасяліліся) сярод жыхароў Медыны, ёсць двудушнікі, што ўпартыя ў двудушнасці сваёй. Ты іх не ведаеш. Мы іх ведаем. І Мы пакараем іх двойчы.

**102.** Іншыя ж грахі свае прызналі: яны перамешвалі добрыя чыны з другімі — дрэннымі. Быць можа, да іх Аллаг прыхільным будзе, бо прыхільны Аллаг і міласэрны!

**103.** Вазьмі ты міласціну з іх маёмасці, каб ёю апраўдаць іх і ачысціць маёмасць іх, і маліся за іх, бо, сапраўды, твае малітвы — ахова і мір для іх (душаў). Аллаг жа чуе ўсё і ведае!

**104.** Ці не ведаюць яны, што Аллаг прымае пакаянне ад слуг Сваіх і ўспрымае міласціну і што толькі Аллаг ёсць Прабачваючы, Літасцівы!

**105.** (Ты ім) скажы: «Чыніце дабро! Аллаг убачыць вашыя справы, а таксама і Яго пасланнік (убачыць), і вернікі. І будзеце вы ўсе вернуты да Таго, Каму ўсё тайнае і яўнае вядома. І Ён раскажа ўсім вам усё (сутнасць) тое, што вы чынілі.

**106.** Ёсць і іншыя (двудушнікі), каму адтэрміноўваецца да часу, калі Аллаг распарадзіцца імі (па заслугах): пакарае іх або міласціва прабачыць. Аллаг Усявед, Мудры (бязмерна).

**107.** Аб тых, якія пабудавалі сабе мячэць, каб тварыць бязбожжа, раскол паміж вернікамі, а таксама для засады тых, хто раней ваяваў з Аллагам і Яго пасланнікам, — яны ж, несумненна, будуць бажыцца: «Хацелі мы толькі дабра!» — аб іх — сведчанне Аллага: яны, сапраўды, ілгуны!

**108.** У ёй (гэтай мячэці) на малітву ніколі не станавіся. Але ёсць мячэць, што з першых дзён была заснавана на праведнай баязлівасці (міласць Аллага страціць); яна вартая таго, каб у ёй ты станавіўся на малітву. У ёй — той, хто любіць у чысціні сябе трымаць. Аллаг не любіць тых, хто ў чысціні сябе не трымае.



**109.** Хто лепшы: той, хто залажыў аснову для пабудовы на набожнасці і баязі Аллага, у жаданні дагадзіць Яму, ці Той, хто залажыў аснову для пабудовы на схіле старога адхону, гатовага расцярушыцца і зрынуцца? Ён разам з ім (такім храмам) у полымя пекла будзе зрынуты! Аллаг няправедных не будзе накіроўваць.

**110.** Пабудова іх, што ўзвялі яны, не перастане выклікаць у іх сэрцах няпэўнасць, пакуль сэрцы іх не разарвуцца. А Аллаг Усявед, Мудры!

**111.** Сапраўды, Аллаг купіў у вернікаў іх душы і іх маёмасць узамен за атрыманне імі Райскага Саду. Яны змагаюцца на промысле Аллага, забіваючы ворагаў, і самі бываюць забітымі, як завешчана па Ісціне Яго праз Тору (Закон), Інджыл (Евангелле) і Кур'ан Свяшчэнны. А хто ў абяцанні Сваім больш надзейны, чым Аллаг? Весяліцеся ж ад выгаднай дамовы, якую вы з Ім заключылі. Гэта — вялікая ўрачыстасць.

**112.** Яны ёсць тыя, якія звяртаюцца да Аллага з пакаяннем, якія пакланяюцца Яму, — услаўляючы Яго, — падарожнічаюць, служачы Яму, — (пакорліва) схіляюць галаву, распасціраюцца ніц (у малітве), (імем Яго) заклікаюць да дабра, утрымліваюць ад благога, і (у чысціні) не пераступаюць Яго межаў (дазволу) — (яны будуць радавацца). Ты паведамі добрую вестку гэтым вернікам (: іх чакае вялікая ўзнагарода).

**113.** Не пасуе ні пасланніку, ні тым, хто ўвераваў (у Аллага) прасіць для мнагабожнікаў даравання, хай будуць яны нават блізкай раднёй, пасля таго, як стала ім ясна, што быць ім жыхарамі пекла.

**114.** І Ібрагім маліўся аб даравані бацьку толькі таму, што ён абяцаў. Калі ж стала яму ясна, што бацька быў ворагам

Аллагу (і застаўся), ён адмовіўся ад яго. Сапраўды, Ібрагім быў вельмі добрасардэчным і спачуваючым.

**115.** Аллаг не кіне на раздарожжы народ пасля таго, як Ён накіраваў яго, пакуль ім ясна не вызначыць, чаго ім трэба высцерагацца. Сапраўды, добра ведае ўсё Аллаг.

**116.** Аллаг валодае нябёсамі і зямлёй, толькі Ён даруе жыццё і пасылае смерць. Няма апекуна ў вас, акрамя Яго, няма і памочніка іншага.

**117.** Сапраўды, аказаў Сваю міласць Аллаг пасланніку, мугаджырам і ансарам, якія (самааддана) пайшлі за Ім у цяжкі час нястачы і гора, калі сэрцы некаторых з іх (з Яго шляху) амаль не адхіліліся. І ўсё ж Ён звярнуўся да іх з дараваннем — бо да іх Ён добры і міласэрны.

**118.** І звярнуўся Ён з міласэрнасцю да тых трох[1], якія засталіся дамаседамі, каб зямля, з усім яе абшарам, стала цеснай для іх, і сціснуліся душы іх, і ўпэўніліся яны, што няма сховішча ад Аллага, акрамя як у Яго ўласным (удзеле). Тады Ён звярнуўся да іх з дараваннем, каб з пакаяннем яны да Яго прыйшлі. Сапраўды, Міласцівы Аллаг у спачуванні Сваім і Міласэрны.

**119.** О вы, хто вернікі! Бойцеся Аллага і будзьце з тымі, хто праўдзівы (і ў слове, і на справе)!

**120.** Не пасавала жыхарам Медыны, ні качавым арабам, якія жылі вакол іх, заставацца ззаду пасланніка Аллага, клапаціцца толькі аб сабе замест таго, каб паклапаціцца аб ім, каб на шляху Аллага іх не спасцігла: смага (у дарозе), стомленасць, голад, які б крок ні зрабілі яны, штоператварыў

---

[1] Трое жыхароў Медыны, якія ў адрозенне ад двудушнікаў не шукалі і не прыдумлялі розных прычын, каб не ісці ў паход, а адкрыта заявілі, што не хочуць прымаць удзел у гэтым.



бы ў гнеў няверных, якіх бы бед вораг ім ні зрабіў — (няма ні адной нястачы ці справы), што б ні было запісана за імі, як добрая (Аллагу прыемная) справа. Аллаг, сапраўды, не дасць прапасці ўзнагародзе тым, хто чыніць дабро!

**121.** Якім бы ні быў іх расход — малы ці вялікі, якія б землі не перасякалі яны, запісана за імі будзе ўсё, каб лепшым ім аддзячыў Аллаг, чым тое, што зрабілі яны.

**122.** Не трэба вернікам ісці (у паход) усім адразу. Няхай лепш бы склаўся атрад ад кожнага калена або абшчыны, які выступіў бы для таго, каб маглі яны быць цвёрда настаўлены на веру, і каб маглі яны пасля вяртання ў абшчыну настаўляць свой народ, каб бераглiся яны ад зла.

**123.** О вы, вернікі! Змагайцеся з тымі з няверных, хто блізка да вашых дамоў, і няхай яны знойдуць суровасць у вас, і ведайце, што Аллаг толькі з тымі, хто баіцца Яго гневу.

**124.** І кожны раз, калі пасылаецца Сура, некаторыя з іх кажуць: «Каму з вас яна дадасць веры?» Але ў тых, хто верыць, яна ўзмоцніць веру, і радуюцца (ёй) яны.

**125.** Што ж тычыцца тых, чые сэрцы пашкоджаны немаччу, яна толькі дадае новую мярзоту да мярзоты іх, і смерць спасцігне іх у нявер'і.

**126.** Ці не бачаць яны, што кожны год аднойчы ці двойчы іх падвяргаюць выпрабаванню (даючы ім магчымасць звярнуцца да Аллага), — яны ж не каюцца і ўшчування не слухаюць.

# КУР'АН

## *Сура Аттаўба. Аяты 103 — 106.*

خُذْ مِنْ أَمْوَٰلِهِمْ صَدَقَةً تُطَهِّرُهُمْ وَتُزَكِّيهِم
بِهَا وَصَلِّ عَلَيْهِمْ إِنَّ صَلَوٰتَكَ سَكَنٌ لَّهُمْ وَٱللَّهُ
سَمِيعٌ عَلِيمٌ ﴿١٠٣﴾
أَلَمْ يَعْلَمُوٓا۟ أَنَّ ٱللَّهَ هُوَ يَقْبَلُ ٱلتَّوْبَةَ عَنْ عِبَادِهِۦ وَ
يَأْخُذُ ٱلصَّدَقَٰتِ وَأَنَّ ٱللَّهَ هُوَ ٱلتَّوَّابُ ٱلرَّحِيمُ ﴿١٠٤﴾
وَقُلِ ٱعْمَلُوا۟ فَسَيَرَى ٱللَّهُ عَمَلَكُمْ وَرَسُولُهُۥ وَٱلْمُؤْمِنُونَ
وَسَتُرَدُّونَ إِلَىٰ عَٰلِمِ ٱلْغَيْبِ وَٱلشَّهَٰدَةِ فَيُنَبِّئُكُم بِمَا
كُنتُمْ تَعْمَلُونَ ﴿١٠٥﴾
وَءَاخَرُونَ مُرْجَوْنَ لِأَمْرِ ٱللَّهِ إِمَّا يُعَذِّبُهُمْ وَإِمَّا يَتُوبُ
عَلَيْهِمْ وَٱللَّهُ عَلِيمٌ حَكِيمٌ ﴿١٠٦﴾

**127.** Калі пасылаецца ім Сура, то яны глядзяць адзін на аднаго (гаворачы): «Вас бачыць хто-небудзь?» Пасля гэтага яны адыходзяць прэч. Няхай Аллаг ухіліць у бок сэрцы іх за тое, што яны людзі без усякага разумення.

**128.** З вас прышоў пасланнік да вас. Яго трывожыць тое, што вы робіце грахі. Ён заклапочаны вамі, да вернікаў ён спачуваючы, міласэрны.

**129.** І калі яны ўсё ж адвернуцца, скажы: «Даволі мне Аллага! Няма бостьа акрамя Яго. Толькі на Яго я спадзяюся і магутны Прастол Уладыкі майго».



# РЫТУАЛЬНЫЯ АЗКАРЫ-НАПАМІНЫ І МАЛІТВЫ ПАСЛАННІКА

### 1. Пры завяршэнні намазу:

«Прашу даравання ў Аллага» (тройчы). «О Аллаг! Ты ёсць салям (мір, здароўе), і ад Цябе зыходзіць салям. Памножылася Твая ласка і ўзвысіўся Ты, о Уладальнік велічы і гонару. О Аллаг! Дапамажы мне помніць Цябе, дзякаваць Табе і хораша пакланяцца Табе».

### 2. Перад сном:

Кладзіся на правы бок, пакладзі правую руку пад правую шчаку і скажы: «Імем Тваім, Гасподзь мой, я паклаў свой бок і імем Тваім я падыму яго. Калі Ты ўтрымаеш маю душу, будзь міласэрны да яе, а калі Ты адашлеш яе, ахавай яе так жа, як Ты ахоўваеш Сваіх паслухмяных рабоў».

### 3. Прачынаючыся:

«Хвала Аллагу, Які ажывіў нас пасля таго, як умярцвіў нас, і да Яго вяртаемся, уваскрошы», — або: «Хвала Аллагу, Які вярнуў мне маю душу, здароўе майму целу і памінаць Сябе дазволіў».

### 4. У час яды або піцця:

«О Аллаг, блаславі нас у тым, чым Ты надзяліў нас, і абарані нас ад пакутаў пекла, у імя Аллага». Калі ты забыўся на гэта ў пачатку яды, то скажы ў працэсе яе: «У імя Аллага», — і ў пачатку, і ў канцы.

### 5. Завяршыўшы яду:

«Хвала Аллагу, Які накарміў мяне гэтым і надзяліў мяне гэтым без ніякай дапамогі і сілы з майго боку», — або: «Хвала

Аллагу, Які накарміў нас, напаіў і зрабіў нас мусульманамі (пакорнымі Аллагу)».

**6. Пры выхадзе з дома:**

«У імя Аллага (выходжу з дома), я спадзяюся на Аллага; няма моцы і сілы, акрамя як ад Аллага», — або: «У імя Аллага (выходжу з дома), я спадзяюся на Аллага. О Аллаг, я спадзяюся на Цябе, каб не заблукаць і не быць уведзеным у блуд, каб не памыліцца і не быць уцягнутым у памылку, каб не прыгнятаць і не быць прыгнечаным, каб не быць дзёрзкім і не быць абражаным дзёрзкасцю».

**7. Пры ўваходзе ў дом:**

«О Аллаг, прашу ў Цябе добрага ўваходу і добрага выхаду. У імя Аллага мы ўваходзім, у імя Аллага мы выходзім і на Аллага, Госпада нашага, спадзяёмся».

**8. Пры ўваходзе на рынак:**

«Няма бажаства, акрамя Аллага Адзінага, Які не мае супольніка. Яму належыць царства, і Яму належыць хвала. Ён ажыўляе і ўмярцвяе, і Ён Жывы, не ўмірае. У Яго руках дабро, і Ён Усёмагутны».

**9. Перад уваходам у туалет:**

«У імя Аллага (іду ў туалет). О Аллаг, прашу Тваёй абароны ад каварных шайтанаў мужчынскага і жаночага роду». Затым уваходзім, спачатку ступаючы леваю нагою.

**10. Пасля выхаду з туалета:**

Выходзіш, спачатку ступаючы правай нагой, затым гаворыш: «Прабачэння Твайго (прашу)», — або: «Хвала Аллагу, Які адхіліў ад мяне непрыемнае і збярог маё здароўе».



**11. Пры пасадцы у самалёт, машыну, на судна, верхавую жывёліну і іншае:**

«У імя Аллага», — і пасля пасадкі: «Хвала Аллагу, Аллаг найвялікшы, Аллаг найвялікшы, Аллаг найвялікшы. Святы Той, Хто падпарадкаваў нам гэта, на што мы не былі здольныя. Сапраўды, да Госпада нашага мы вяртаемся».

**12. Пры выхадзе ў дарогу:**

«О Аллаг, мы просім Цябе ў гэтым нашым шляху, каб мы былі праведнымі і богабаязнымі, і з чынаў нашых тое, што пажадана Табе. О Аллаг, аблегчы нам гэты наш шлях і ўкарачі для нас яго адлегласць. О Аллаг, Ты спадарожнік і ахоўнік у сям'і. О Аллаг, сапраўды, мы звяртаемся да Цябе аб дапамозе ў цяжкасцях шляху, змрочнага краявіду і дрэннага вяртання і страты ў маёмасці, сям'і і нашчадках».

**13. Калі апранаемся:**

«Хвала Аллагу, Які апрануў мяне ў гэта без ніякай дапамогі і сілы з майго боку».

**14. Апранаючы новую вопратку:**

«О Аллаг, Табе хвала. Ты апрануў мяне гэтым. Я прашу ў Цябе дабра яго і дабра таго, для чаго яно зроблена. І звяртаюся да Цябе ад зла яго і зла таго, для чаго яно зроблена».

**15. Пры ўваходзе ў мячэць:**

Спачатку ступаеш правай нагой (у адрозненне ад уваходу ў туалет) і гаворыш: «У імя Аллага, і салям Пасланніку Аллага. О Аллаг, адчыні для мяне вароты міласці Тваёй».

### 16. Пры выхадзе з мячэці:

Спярша ступаеш левай нагой, і гаворыш: «У імя Аллага (выходжу), і салям Пасланніку Аллага. О Аллаг, прашу дабра Твайго».

### 17. Калі рэжаш жывёлу:

«У імя Аллага (рэжу), Аллаг найвялікшы».

### 18. Пры чханні:

Той, хто чхае, кажа: «Хвала Аллагу», — той, хто чуе, адказвае: «Няхай памілуе цябе Аллаг», — той, хто чхнуў, у адказ на гэта кажа: «Няхай павядзе вас Аллаг па правільным шляху, і выправіць Ён вашы абставіны».

### 19. Пры завяршэнні маджліса (паседжання, сходу), каб было скончана па-добраму:

«Святы Ты, о Аллаг, і з хвалой Табе сведчу, што няма бажаства, акрамя Цябе. Прашу Твайго даравання і каюся перад Табой».

### 20. Пры разгавенні:

«О Аллаг, Табе я пасціўся і надзеленым Табой я разгавеўся», — або: «Прайшла смага, і напоўніліся вільгаццю жылы, і зацвердзілася ўзнагарода, калі ўгодна Аллагу Усявышняму. У імя Аллага (разгаўляюся)».

### 21. Пры павеве (моцнага) ветру:

«О Аллаг, прашу Цябе дабра яго і дабра таго, што ў ім, і дабра таго, для чаго ён (вецер) быў пасланы, і ўратуй мяне ад зла яго і зла таго, што ў ім, і зла таго, з чым ён пасланы».



### 22. Калі грыміць гром:

«Святы Той, Каго з хвалой услаўляюць гром і анёлы ад страху перад Ім» (тройчы).

### 23. Пры бяссонніцы ноччу:

«О Аллаг, закаціліся зоркі, супакоіліся вочы, і толькі Ты Жывы і Незалежнаісны, не адольваюць Цябе ні дрымота, ні сон. О Жывы, о Незалежны, зрабі ціхай маю ноч і заплюшчы мае вочы».

### 24. Праважаючы таго, хто ад'язджае:

«Давяраю Аллагу тваю веру, тваю вернасць і завяршэнне тваіх дзеянняў».

### 25. Пры завяршэнні азану:

«О Аллаг, пашлі салят Мухаммеду. О Аллаг, Гасподзь гэтага здзейсненага прызыву і здзейсненага намазу, дай Мухаммеду Васіля (найвышэйшай ступені ў раю) і найвышэйшую якасць, і ўваскрэсі яго на пахвальным месцы, якое Ты абяцаў яму» (гэта значыць месца, дзе ў Судны дзень Пасланнік стане для аказання заступніцтва за мусульман).

### 26. Пры наведванні хворага:

«Прагані шкоду, Гасподзь людзей вылечы. Ты ж Той, Хто лечыць; няма вылячэння, акрамя як у Цябе, лячэннем, якое не пакідае ніякай хваробы».

### 27. Калі спасцігла гора:

«Сапраўды, мы належым Аллагу, сапраўды, да Яго і вяртаемся».

**28. Пры ўваходзе на могілкі:**

«Мір вам, насельнікі гэтай зямлі, з прававерных і мусульман, і мы па волі Аллага дагонім вас. Просім у Аллага сабе і вам прабачэння».

**29. Пры бласлаўленні маладых:**

«Няхай блаславіць Аллаг цябе і пашле добрае табе, і няхай спалучыць вас абодвух у добрае».

**30. Калі ідзе дождж:**

«О Аллаг, прыемнага дажджу».

**31. Пры сустрэчы з ворагам:**

«О Аллаг, сапраўды мы накіроўваем Цябе ў іх грудзі і звяртаемся да Цябе ад іх зла».

**32. Убачыўшы маладзік:**

«Аллаг найбольшы! О Аллаг, зрабі, каб ён з'явіўся над намі з бяспекай, з Іманам, з дабрабытам і з Ісламам. Наш Гасподзь і твой Гасподзь — Аллаг. Маладзік кірунку і дабра».

**33. Калі спыняешся дзе-небудзь:**

«Звяртаюся са словам Аллага ад зла таго, што Ён стварыў».

**34. Пры бядзе і скрусе:**

«О Аллаг, да Цябе, сапраўды, звяртаемся пры клопаце і скрусе, і да Цябе звяртаемся пры немачы і ляноце, і да Цябе звяртаемся пры баязлівасці і скупасці, і да Цябе звяртаемся ад непасільных абавязкаў і чалавечага гвалту».



# СХОДЫ І З'ЕЗДЫ МУСУЛЬМАН БЕЛАРУСІ

Канец зімы і пачатак вясны 1998 года быў запоўнены важнымі падзеямі ў жыцці беларускіх мусульман. У гэты перыяд прайшлі справаздачныя сходы і з'езды мусульманскіх арганізацый, штаб-кватэры якіх знаходзяцца ў сталіцы Беларусі — г. Мінску.

21 лютага адбыўся справаздачна-выбарчы сход Мінскага гарадскога згуртавання татараў-мусульман "Аль-Кітаб". Сход абраў новы склад Праўлення Мінскага згуртавання "Аль-Кітаб":

Александровіч Айша Браніславаўна — мастачка;
Багданаў Іран Ісхакавіч — прадпрымальнік;
Васілеўская Алена Іванаўна — дацэнт БДУ;
Курэйчык Канстанцін Пятровіч — прафесар БРТУ;
Лашкевіч Аляксандр Аляксандравіч — супрацоўнік Нацыянальнага архіва;
Мейшутовіч Эльміра Амуратаўна — пенсіянерка;
Жданові Ніна Якаўлеўна — студэнтка;
Смольскі Сяргей Аляксандравіч — студэнт;
Туфкрэа Разалія Адамаўна — супрацоўнік вучэбна-метадычнага цэнтра Міністэрства адукацыі;
Хакімаў Рынат — кампазітар, спявак;
Хасяневіч Дзіяна Мустафаўна — урач;
Шабановіч Дзіяна Мустафаўна — студэнтка;
Якубоўская Марына Іванаўна — студэнтка.

Старшынёй Праўлення Мінскага гарадскога згуртавання татараў-мусульман "Аль-Кітаб" абраны І.Багданаў.

1 сакавіка прайшоў справаздачна-выбарчы сход мусульманскай абшчыны г.Мінска. Старшынёй Савета мусульманскай абшчыны абраны І.Б.Канапацкі. Намеснікамі старшыні прызначаны А.Халембек і Мухаммед Махмуд. У склад Савета мусульманскай абшчыны г.Мінска ўвайшлі таксама Алі Варановіч, Ісмаіл Варановіч, Барыс Аляксандраў, Бекір Багдановіч, Аляксандр Ільясевіч, Лілія Канарская, Маўла Месірбаеў, Аміня Хасяневіч, Ваха Цемірбаеў.

14 сакавіка адбыўся чарговы, Трэці з'езд мусульман Беларусі, на якім былі заслуханы справаздачныя даклады Упраўлення мусульманскага рэлігійнага аб'яднання ў Рэспубліцы Беларусь (І.М.Александровіч) і Рэвизийнай камісіі (С.М.Рафаловіч). На з'езд з 52 абраных дэлегатаў з 24 абшчын Беларусі прыбылі 44 дэлегаты (8 чалавек не прыехалі па ўважлівых прычынах). У абмеркаванні дакладаў прыняў ўдзел 21 чалавек. Яны ўнеслі шэраг каштоўных прапаноў для далейшай работы аб'яднання. Былі і асобныя выступленні, якія не атрымалі падтрымкі большасці дэлегатаў. Увогуле, з'езд выступіў за працяг і актывізацыю работы па адраджэнні Ісламу шляхам арганізацыі і ўмацавання новых мусульманскіх абшчын на Беларусі, адукацыі дзяцей і дарослых, будаўніцтва малельных дамоў і мячэцяў, устанаўлення і развіцця кантактаў з мусульманскімі арганізацыямі і краінамі. На з'езде абсалютнай большасцю галасоў на пасаду старшыні Упраўлення мусульманскага рэлігійнага аб'яднання ў Рэспубліцы Беларусь (муфтэя) на чарговы тэрмін абраны Ісмаіл Мустафавіч Александровіч. У склад муфтэята ўвайшлі І.Б.Канапацкі, А.І.Варановіч, І.М.Варановіч, Аднан Абдульджаббар. Старшынёй Рэвізійнай камісіі абраны С.М.Рафаловіч. Членамі камісіі сталі Т.М.Абрагімовіч і Т.Л.Александровіч.

Урэшце, 15 сакавіка ў памяшканні Палаца ветэранаў у Мінску прайшоў Трэці з'езд Беларускага згуртавання татараў-мусульман "Аль-Кітаб". У яго рабоце прынялі ўдзел 78 дэлегатаў з розных рэгіёнаў нашай краіны. З'езд заслухаў справаздачны даклад Праўлення Згуртавання "Аль-Кітаб" за перыяд з 19 чэрвеня 1995 года па 15 сакавіка 1998 года, з якім выступіў прэзідэнт Згуртавання Абу-Бекір Шабановіч, а таксама даклад Рэвізійнай камісіі (дакладчык Л.М.Канарская). З'езд абраў новы склад Праўлення Беларускага згуртавання татараў-мусульман "Аль-Кітаб". У яго ўвайшлі Вадзім Ахметаў, Іран Багданаў, Ірэк Гафіятулін, Аляксандр Крыніцкі, Ібрагім Канапацкі, Мустафа Канапацкі, Канстанцін Курэйчык, Юрый Маслоўскі, Мансура Сабірава, Абу-Бекір Шабановіч, Якуб Якубоўскі. Прэзідэнтам "Аль-Кітаб" у чарговы раз быў абраны Абу-Бекір Шабановіч. З'езд абраў віцэ-прэзідэнтамі Згуртавання "Аль-Кітаб" Ірана Багданава і Ірэка Гафіятуліна. У склад Рэвізійнай камісіі ўвайшлі С.Рызвановіч (старшыня), С.Паўленка і Ф.Гельмуліна (члены камісіі).



У рабоце вышэйзгаданых з'ездаў прымалі ўдзел намеснік старшыні Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь І.І.Яновіч, начальнік аддзела камітэта В.Г.Берняковіч, супрацоўнік камітэта І.І.Савіцкі, вядучы спецыяліст Міністэрства культуры А.В.Бабіцкі, вядучы спецыяліст Міністэрства адукацыі В.В. Мацюшэнка, дырэктар Рэспубліканскага цэнтра нацыянальных культур В.І.Мацюшэнка, прарэктар яўрэйскага універсітэта Э.Р.Іофэ, рэдактар перадач для татар Літоўскага радыё М.Байрашэўскі, шматлікія госці. Вялікай групе актывістаў Мусульманскага рэлігійнага аб'яднання ў Рэспубліцы Беларусь і Беларускага згуртавання татараў-мусульман "Аль-Кітаб" ад імя Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублiцы Беларусь была аб'яўлена падзяка за ўклад у справу адраджэння татарскай культуры, традыцый, звычаяў і актыўны ўдзел у арганізацыі святочных мерапрыемстваў з нагоды 600-годдзя пасялення татар на землях Беларусі "якія спрыялі ўзмацненню міжнацыянальнай і міжканфесійнай згоды, павышэнню міжнароднага аўтарытэту Беларусі".

**К. Ібрагімаў.**



**Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусі**

## ЗАГАД № 3

**11 сакавіка** **г. Мінск**

**Аб узнагароджанні Ганаровай граматай Дзяржкамітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь**

За значныя дасягненні ў адраджэнні і развіцці татарскай культуры, вялікую арганізацыйную і творчую работу па правядзенні святочных мерапрыемстваў з нагоды 600-годдзя пасялення татар на землях Беларусі, якія спрыялі ўзмацненню міжнацыянальнай і міжканфесійнай згоды, выхаванню пачуцця патрыятызму грамадзян Беларусі, павышэнню міжнароднага аўтарытэту рэспублікі і на падставе хадайніцтва Праўлення Беларускага аб'яднання татар-мусульман "Аль-Кітаб"

**ЗАГАДВАЮ**

Узнагародзіць Ганаровай граматай Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь:

**Александровіча Ісмаіла Мустафавіча**, муфція Мусульманскага рэлігійнага аб'яднання ў Рэспубліцы Беларусь;

**Варановіча Ісмаіла Мухарэмавіча**, намесніка муфція Мусульманскага рэлігійнага аб'яднання ў Рэспубліцы Беларусь;

**Канапацкага Ібрагіма Барысавіча**, віцэ-прэзідэнта Беларускага аб'яднання татар-мусульман "Аль-Кітаб", члена муфціята Мусульманскага рэлігійнага аб'яднання ў Рэспубліцы Беларусь;

**Шабановіча Абу-Бекіра Юх'янавіча**, прэзідэнта Беларускага аб'яднання татар-мусульман "Аль-Кітаб".

Намеснік старшыні **І.І. Яновіч.**





*Салям алейкум!*

## Дорогие соплеменники!

Так в жизни устроено, что каждый народ гордится своей историей, бережёт свою неповторимую культуру, сохраняет свои обычаи и традиции. С утратой одного из этих национальных компонентов нация теряет свою самобытность, подвергается ассимиляции и исчезает. Таких примеров в истории человеческого общества очень много, и, как правило, исчезают народы, живущие в диаспоре.

Вот уже более 600 лет живут татары на Беларуси. Белорусский край является особой этнической зоной Европы: здесь кроме коренной белорусской нации проживают ещё 122 нации и этнические группы; является тем жизненным пространством, на котором стыкуются ближневосточная, восточно- и западноевропейская цивилизации; с древних времён в отношениях между Севером и Югом, Востоком и Западом является военных перекрёстком, по которому проходило много разорительных войн, включая и две последние мировые, самые ужасные в истории человечества.

Татарская нация на Беларуси как носитель Ислама 600 лет находилась в плотном окружении христианского мира (православия и католичества) и иудейской веры. В разное время наша нация подвергалась общественному и государственному влиянию литовцев, поляков, русских и белорусов с их материальной и духовной культурами и понесла заметные потери: утрачен язык, многие обычаи и традиции. Наша нация от этих потерь стала исчезать. На протяжении 1988–1989 гг. татарскими патриотами Вильнюса, Гродно и Минска была сделана отчаянная попытка организованного и планового спасения нашей культуры. С этой целью образованы национально-культурные объединения. На сегодня их в Республике Беларусь 25. За этот срок мы сумели принять много спасительных мер в возрождении нашей самобытной культуры:

— организованы и проведены 4 международные научно-практические конференции по актуальным для нас проблемам

истории и мусульманской культуры татар Беларуси, Литвы и Польши, которые в советский период были искажены историками до уровня нашего национального оскорбления;

— используя научный потенциал 150-ти видных учёных из 10-ти государств нам удалось выяснить перспективы нашего возрожденческого движения, защитить от поползновений некоторых горе-идеологов, обвинивших последователей Ислама нашего региона в якобы тяготении к "национализму", "экстремизму", "Исламскому фундаментализму" и т.д. В конце концов нашими научными и издательскими действиями удалось сформировать высокий авторитет Общества "Аль-Китаб" среди других национально-культурных объединений, широкой общественности и государственных органов Республики Беларусь и зарубежья.

С 1991 года издано 26 номеров ежеквартального журнала "Байрам", 24 номера религиозного журнала "Аль-Ислам", второй год издаётся газета "Жизнь". И в дальнейшем с вашей помощью, наши дорогие братья-читатели, будем совершенствовать форму и содержание всего этого научного и издательского арсенала, превратим их в подлинную трибуну нашего общества на современной цивилизованной основе.

Активом возрожденцев установлены культурные связи с правительством и общественными организациями Республики Татарстан, с Исполкомом Всемирного конгресса татар, с некоторыми благотворительными фондами и обществами Российской Федерации.

Мы отмечаем хорошее понимание и уважительное отношение к нашей татарской нации со стороны отечественных государственных органов, что подтвердилось помощью нам на протяжении всего 1997 года в организации и проведении мероприятий, посвяиенных 600-летнему юбилею.

Признание и уважение нас белорусами и другими народами-братьями — символ человеческого величия наших предков, их истории и мусульманской культуры, вас, мои дорогие соплеменники, своим трудом и гуманизмом поддерживающих наши обычаи и традиции, равновесие и национальную добропорядочность в отношениях между людьми разных национальностей и религий.



Через два года мир вступит в XXI век и III тысячелетие с новыми надеждами на хорошую, достойную жизнь, о чём мечтали и наши предки, мечтаем и надеемся и мы с вами.

Как жить, как воспитывать наших детей – наше будущее, как сохранить культуру и вообще нашу нацию? Эти вопросы решались в отчётно-выборную кампанию и на только что закончивших работу Третьих съездах Муфтията и Белорусского объединения татар-мусульман "Аль-Китаб". Представители 25 первичных организаций сделали попытку наметить направления в возрождении нации и её мусульманской культуры. В последующих номерах нашей газеты и журнала "Байрам" будем публиковать эти материалы.

В настоящее время избранный новый состав Муфтията и Правления "Аль-Китаб" работают над составлением реальных планов.

Уважаемые соплеменники и соотечественники! Вновь избранный президент и Правление общества татар-мусульман "Аль-Китаб" благодарят вас за оказанную честь и доверие продолжать гуманное дело высокой общественной значимости. Мы обещаем строить работу так, чтобы укреплять наш мусульманский образ жизни, национальное достоинство татар, укреплять дружбу с братьями-белорусами и другими нациями, достойно выполнять обязанности граждан Республики Беларусь.

Дорогие братья и сёстры в Исламе! Поздравляем всех вас с наступающим праздником Ид аль-Адха – Курбан-Байрамом. Пусть счастье и благополучие входят в ваш дом, в жизнь каждого из вас.

Да благославит вас Аллах! Салям алейкум!

**Президент Объединения "Аль-Китаб" А.-Б. Шабанович.**

***

# ТОЛЬКІ ПАД СТАРАСЦЬ Я ЎВАЖЛІВА СТАЎ ЧЫТАЦЬ МІХАІЛА ЛЕРМАНТАВА

У час вучобы ў школе я думаў, што ведаю рускую літаратуру. Пушкін — самы славуты, Лермантаў — таксама гордасць Расіі. Па праграме было прадугледжана, што пра літаратурных герояў гэтых пісьменнікаў — Анегіна і Пячорына — як пра лішніх людзей трэба пісаць сачыненне. "Барадзіно", урыўкі з "Мцыры" і "Песні пра цара Івана Васільевіча, маладога апрычніка і зухаватага купца Калашнікава" вывучыў напамяць. Толькі ў 1997 г., будучы ў сваіх сяброў, узяў з паліцы том з паэмамі М.Ю.Лермантава, і не мог адарвацца ад чытання. Асабліва вялікае ўражанне зрабіла на мяне яго паэма "Баярын Орша", напісаная ў 1835 ці 1836 годзе. Пасля, вярнуўшыся дамоў, я пачытаў у бібліятэцы "Лермантаўскую энцыклапедыю" (Масква, 1981), "Энцыклапедыю гісторыі Беларусі" (Мінск, 1996). Вядома, твор мастацтва – гэта не дакументальная хроніка. Паэт адвольна мяняе час і месца дзеяння, таму толькі рака Дняпро, якая адлюстравана ў гэтай паэме, была і ёсць на самой справе. Рускі цар — Іван Жахлівы — некаторых сваіх набліжаных баяр цалаваў у вусны і абдорваў футрам са сваіх плячэй, надзяляў землямі і замкамі ў землях, адабраных у суседзяў-дзяржаў. Так магло быць і каля Воршы, якая сотні год да таго была ў складзе Беларуска-Літоўскай Дзяржавы. Кульмінацыя дзеяў адбылася ў час Інфлянцкай (Лівонскай) вайны 1558–1582 гадоў, пасля Ульскай бітвы 1564 г. (пад Улай непадалёк ад Чашнікаў). У віхуры вайны нейкі сіротка — татарскі хлапчук быў аддадзены на выхаванне ў хрысціянскі манастыр. Яму было дадзена імя Арсеній, а бацькоў ён не ведаў. Падрос, узмужнеў. Баярын Орша ўзяў яго да сябе ў якасці слугі, можа нават ахоўніка. Спадабаўся прыгожы юнак і дачцэ баярына. Паміж маладымі ўзнікла тайная любоў. Калі аб гэтым даведаўся дэспат-баярын, то загадаў схапіць і судзіць Арсенія. Арсенію, відаць, была наканавана смерць. Аднак напярэдадні з дапамогай дзяўчыны ўдалося перапілаваць краты і збегчы. Баярын пасадзіў сваю дачку ў турму, а ключ ад замка-запору выкінуў у Дняпро.



Праз нейкі час Арсеній вярнуўся ў мясціны, дзе быў разлучаны з дзяўчынай. Ён служыў у войску Вялікага Княства, а баярын Орша быў у шэрагах свайго гаспадара – Івана Жахлівага. Палеглі ў бітве многія воіны. Смяротна паранены баярын Орша бачыць каля сябе Арсенія. Ён лічыць, што Арсеній прыйшоў, каб забіць свайго ворага. Але малады воін хоча бачыць сваю любую, і гэта для яго галоўнае, а не помста. Баярын перад самай смерцю зразумеў, што ён несправядліва паступіў са "сваёй дачкой і са сваім магчымым зяцям". Ён кажа Арсенію, каб ён спяшаўся да сваёй дзяўчыны, бо яна яго чакае.

Вось Арсеній каля дома красуні, але.... яна ўжо не жыве. Ляжыць толькі спарахнелае цела.

Рамантычную паэму М.Ю. Лермантаў напісаў ва ўзросце 22 гадоў. Рускі літаратурны крытык В.Р. Бялінскі высока ацаніў гэту паэму, "...выше, драгоценнее многих зрелых и художественно выполненных поэм".

Я і маё пакаленне маглі б больш чытаць і ведаць пра творчасць М. Лермантава, але школьныя праграмы, падручнікі, настаўнікі кіравалі нас на творы Ул. Маякоўскага, на яго "малаткасты і сярпасты пашпарт", на вершы Мікалая Ціханава "Балада аб цвіках", у якой ёсць фраза: "Гвозди б делать из этих людей: крепче б не было в мире гвоздей". Так, цвікі былі, а на сапраўдную паэзію месца адводзілася крыўдна мала.

**Адам Асановіч.**

***

# МАЦІ ЗЛАЧЫНСТВАЎ

Хто можа сказаць, колькі горкіх слёз, колькі гора, пакут на зямлі? Ніхто. Але ад чаго ліюцца слёзы, адкуль гора і пакуты — можна сказаць. Прычын многа — іх немагчыма пералічыць. Адна з іх — алкаголь. Ніхто з людзей не скажа аб карысці, дабра ад яго, наадварот, нават тыя, што ўжывае алкаголь, кажуць пра яго шкоду.

Адкуль жа ўзялося гэтае зелле? "Дык чаму ж Аллаг стварыў яго, калі алкаголь застаўляе людзей п'янець, губляць чалавечае аблічча?" — пытаюць некаторыя. І на самой справе, ці Аллаг стварыў алкаголь? Не! Алкаголь — гэта харам (забароненае), зробленае з халяль (дазволенага). Аллаг стварыў збожжа, ваду, ягады, садавіну — усё гэта Божы дар і міласць (халяль) для нас. Людзі ж робяць з ягад і садавіны віно, са збожжа — гарэлку. А калі вып'юць, то дурнеюць. Яны не вінавацяць сябе, але лічаць гэта Такдзірам (прадвызначэннем, лёсам). Некаторыя п'яніцы, каб абяліць сябе, пачынаюць так: "Вы, імамы, у сваіх пропаведзях расказваеце аб Такдзіры. Усё, што будзе, лёс чалавечы запісаны Аллагам яшчэ да нараджэння чалавека. У такім выпадку, хто вінаваты, што збываецца запісаны Аллагам лёс? Мы ці Ён? Так, мы па-ранейшаму паўтараем: "Аллаг усё запісаў пра нас яшчэ да нашага нараджэння". Такдзір (лёс) — гэта ісціна, і мы яе змяніць не можам. Але ніхто з нас свой лёс загадзя не ведае, яго ведае толькі Аллаг. Іншыя людзі, быццам бы ведаючыя свой лёс, заганарыўшыся, гавораць ілжывыя, пустыя словы. Ніхто з тых, хто жыве на зямлі, свой лёс ведаць не можа, нікому яшчэ не дадзена кніга лёсу. Пакуль яе не прачытаў, ніхто не можа сказаць: "У маім лёсе гэта запісана". І вы, хто п'е, ці можаце гаварыць: "Гэта мой лёс, мне прадвызначана піць"? Бо гэта вялікі грэх (ганах), гэта кашчунскія словы, пра такіх людзей кажа Усявышні ў Кур'ане:

**"Будуць грэшнікі ў змане і вар'яцтве ў той дзень, калі пацягнуць іх на тварах у агонь (і прагучыць): "Пакаштуйце дотыку пекла!" Сапраўды, Мы ў поўнай меры стварылі кожную рэч"** (Сура 54, аяты 47 — 49).



І кніга лёсу напісана Аллагам і Кур'ан — кніга ад Аллага. Раней чым сказаць бязглуздзіцу, паспрабуй пачытаць Кур'ан. Вялікі Аллаг у Кур'ане ў многіх месцах гаворыць пра забарону алкаголю, што п'янства — грэх і што тых, якія п'юць, чакае расплата ў Судны дзень.

У нашага Стваральніка адно з імёнаў Аль-'Алім — гэта значыць аб усім ведаючы. Калі Ён дорыць Сваю міласць народу, Ён робіць гэта з мудрасцю.

Некаторыя нашы кіраўнікі, пачынаючы барацьбу з п'янствам, высяклі ўсе вінаграднікі, паспрабавалі выпускаць іншыя напоі, каб адвучыць людзей ад п'янства. Мудры Аллаг вядзе Сваіх рабоў Сваім шляхам і адвучае іх ад п'янства. Калі чалавек прызвычайваецца да шкоднага, яго немагчыма хутка адвучыць. Таму адносна гэтага ў Кур'ане ёсць некалькі настаўленняў. Яны пасланы ў розны час па меры прыняцця гэтых настаўленняў людзьмі. Спачатку ў Кур'ане, у суры другой, у аяце 219 так сказана:

**"Яны пытаюць у цябе пра хамр (усё, што выклікае ап'яненне) і майсіры (азартныя гульні). Скажы: "У іх абодвух – вялікі грэх і нейкая карысць для людзей, але грэх іх большы, чым карысць".**

Паслядоўнікі прарока Мухаммеда (мір яму) уверавалі ў адзінага Аллага, стараліся прытрымлівацца слоў Аллага. Гэта час, калі людзі, зразумеўшы словы Аллага, пачыналі разумець Іслам і прымаць яго, чынілі намаз, рабілі добрыя, богаўгодныя справы. І вось аднойчы адзін з паплечнікаў Мухаммеда (мір яму) Рауф ібн Абдрахман сабраў сяброў у госці. На стале было і віно, як звычайна. Пасля яды і піцця яны приступілі да вячэрняга намазу. Імам (які кіруе малітвай) прачытаў: "Агбуду ма тагбудун", — замест: "Ля агбуду ма тагбудун" ("Я буду пакланяцца таму, чаму вы будзеце пакланяцца (о, няверныя)", — замест: "Я не буду пакланяцца таму, чаму вы будзеце пакланяцца"). Падобным чынам, ап'янеўшы, яны дапускаюць памылкі ў малітве і пры іншых абставінах. Вернікі стараліся менш піць. І тады Аллаг пасылае яшчэ адно настаўленне ў суры 4 "Жанчыны", аят 43:

**"О вы, якія ўверавалі! Не набліжайцеся да малітвы, калі вы п'яныя, пакуль не будзеце разумець, што вы гаворыце..."**

Вернікі, уразумеўшы настаўленне Аллага, перасталі піць віно днём, а пілі толькі вечарам перад сном, а некаторыя зусім пакінулі віно. Прайшлі гады. Аднойчы Татбак ібн Малік сабраў сяброў у госці. Сярод іх быў Сагыйт ібн Ваккас. Калі госці наеліся, напіліся віна, яны сталі дужацца паміж сабою, каб вызначыць дужэйшага. Пасля не заўважылі, як сталі біцца і ў бойцы разбілі галаву Сагыйту. Сагыйт паскардзіўся Мухаммеду (мір яму). І тады Аллаг пасылае аят, дзе віно і гарэлка аб'яўляюцца забароненымі. У суры 5 "Трапеза — стол застаўлены", аят 90:

**"О вы, якія ўверавалі! Хамр (усё, што выклікае ап'яненне), майсір (азартныя гульні), капішчы, стрэлы — мярзоціна з прыдумак нячыстай сілы. Трымайцеся далей ад гэтага, — можа быць, вы будзеце шчаслівымі!"**

Гэта забарона тычыцца не толькі алкаголю, але і іншых ап'яняючых рэчываў, такіх як наркотыкі, картачныя гульні, казіно. Усё гэта забароненае (харам).

Таксама харам пакланяцца ідалам, іконам, крыжу. Напрыклад, нельга звяртаць увагу на чорную кошку, якая пераходзіць табе дарогу, на парожнія вёдры, крык вароны, кукаванне зязюлі і іншыя падобныя рэчы — гэтаму нельга верыць. І белую, і чорную кошку стварыў Аллаг, яны такія, як і людзі, карыстаюцца дабротамі Аллага. Усе, хто верыць у прымхі, — бяруць на сябе вялікі грэх. Пачуўшы гэты аят, вернікі перастаюць піць.

Мудры Аллаг у Кур'ане гаворыць: **"Ешце і піце толькі дазволенае (халяль). Не чыніце ісраф (празмернасць — марнатраўства), Аллаг не любіць празмернасць (марнатраўства)"**.

П'яніцы марна трацяць свой час, бо праводзяць яго марна. Цэлы месяц працуюць зранку да вечара, а пасля заробленыя дазволеным шляхам грошы трацяць на забароненыя рэчы: гарэлку, тытунь. Ці ж не змарнаваны час, што пайшоў на зарплату, і сама зарплата? А на гэтыя грошы столькі можна было б зрабіць карыснага, купіць патрэбныя рэчы. А ён не толькі не купляе нічога неабходнага, але на п'яную галаву ўсё нішчыць навокал. На другі дзень баліць галава, грошы, якія засталіся ў кішэні, украў нехта па дарозе дамоў. Жонкі няма дома — яна, узяўшы дзяцей, уцякла. Самавар паламаны, посуд



разбіты, чарапкамі засмечана падлога. Каб апахмяліцца, п'яніца прадае рэчы, што яшчэ засталіся ў хаце. Апахмяліўшыся, трапляе ў выцвярэзнік. Некаторыя такім чынам праводзяць дні, месяцы, гады — без радасці, без сэнсу. Жыццё на зямлі праляціць хутка, не ведаю, што з імі будзе ў Судны дзень.

Калі ў вядро чыстай вады капнуць кроплю атруты – гэта ўжо атручаная вада, непрыдатная для піцця. Падобным жа чынам, калі частку сваёй зарплаты патраціць на гарэлку, ты дадасі атруты да месячнай зарплаты, і яна ўся атручана і знішчана. Аб шкодзе алкаголю хачу прывесці старую прытчу:

"Аднойчы Усман ібн Аффан чытаў хутбу і сказаў так: "О людзі, бойцеся хамр (алкаголь), бо гэта маці ўсіх злачынстваў! "У даўнія часы адзін мусульманін накіраваўся ў мячэць. На шляху адна разбэшчаная жанчына заманіла яго да сябе ў дом і зачыніла на замок дзверы. У доме гэтай жанчыны было віно і бязгрэшнае дзіця. Яна сказала, што пакуль ён не вып'е гэта віно, не пераспіць з ёй і не заб'е дзіця, яна яго не выпусціць. Калі ж ён паспрабуе пайсці, яна ўздыме крык і скажа навакольным, што ён зайшоў у яе дом з дрэннымі намерамі. Мусульманін вельмі напалохаўся гэтых слоў і падумаў: "З гэтай аблудніцай я ніколі не буду мець справы, дзіця я ніколі не заб'ю", — і згадзіўся выпіць віно. Пасля першай шклянкі ён папрасіў другую, пасля пераспаў з жанчынай, а пасля — забіў дзіця".

Падобных прыкладаў вельмі многа. Усё гэта карысна памятаць. Вось і я, звяртаючы вашу ўвагу на гэтае зло, выконваю свой абавязак. Для п'яніцы не агідна есці свініну, ён не баіцца ўзяць чужое, не баіцца блізкасці з чужой жонкай, не асэнсоўвае, што гаворыць. І яго гаспадарка, рэчы раскрадаюцца, памяншаюцца — ён гэтага не разумее. Калі часам мы карыстаемся паслугамі п'яніцы, разлічваючыся з ім гарэлкай, то мы бярэм на сябе грэх, прываблiваючы яго да граху (гарэлцы). Так, чалавек можа саграшыць гарэлкай, нават калі сам не п'е яе. Чалавек, які спрычыніцца да гэтага зла, і той, хто робіць віно або гарэлку, і хто прымушае яе рабіць, і той, хто п'е і налівае, і грузчык яе, і той, хто вязе яе і купляе — на ўсіх грэх. Нават той, хто саджае ў зямлю расліну з разлікам, каб рабіць

написанные арабским письмом..." (Вильнюс, 1968), з аўтографам аўтара. Супрацоўнічаў актыўна з Беларускай Энцыклапедыяй, з'яўляўся сябрам Археаграфічнай камісіі СССР, Савета па беларускай літаратуры Праўлення СП СССР.

**Літаратура:**

Улашчык Мікалай // Беларускія пісьменнікі. Біяліграфічны слоўнік. Т. 6. Мн., 1995, с. 124—126.

Улашчык Мікалай Мікалаевіч. Бібліяграфічны паказальнік. Складальнікі А.К.Каўка, В.У.Скалабан, Р.М.Чыгірова. Мн., 1996.

**Аляксей Каўка.**

***

## ГДАНЬСКАЯ МЯЧЭЦЬ

Як планавалі будаўніцтва мячэці ў Гданьску — гэта даволі вялікая і цікавая гісторыя. Пачынаецца яна з пасляваеннага часу. У 1983 г. ўлады горада вылучылі пляцоўку памерам 1008 кв. м, якая была прызнана Мусульманскаму джаміяту Прэзідэнтам горада Гданьска ў вечнае карыстанне 26.01.1984 г. Распараджэнне аб пабудове мячэці зроблена 6.06.1984 г., дазвол на будаўніцтва дадзены 31.10.1984 г.

У канцы 1983 г. створаны Камітэт будаўніцтва мячэці ў Гданьску як структура, якая мае прававую самастойнасць і дзейнічае незалежна ад Джаміята і Найвышэйшай Мусульманскай Калегіі. У склад Камітэта ўвайшлі: Стэфан Байрашэўскі (старшыня), Алі Мількамановіч, Стэфан Мухля, Тамерлан Палтаржыцкі, Джаміля Смайкевіч-Мурман, Бекір Якубоўскі.

Летам 1984 г. распачалося будаўніцтва мячэці ў Гданьску. 29.09.1984 г. адбылася ўрачыстасць закладкі краевугольнага каменя пад збудаванне.

Уся татарска-мусульманская грамадскасць Трохмесця (Гдыні, Гданьска, Сопата) выконвала грамадскія працы на



патрэбу будаўніцтва. Адны працавалі спарадычна, па меры магчымасці, іншыя бралі сталы і актыўны ўдзел як у самой будоўлі, так і ва ўсіх працах Камітэта будаўніцтва.

Камітэт будаўніцтва мячэці разгарнуў вельмі шырокую дзейнасць па здабыванні фондаў як у краіне, так і за мяжой, у мусульманскіх краінах. Гэта прапагандысцкая дзейнасць мела эфект. Мячэць будавалася гаспадарчым спосабам, гэта значыць пасоўвалася праца і купляліся будаўнічыя матэрыялы па меры атрымання сродкаў, дзелячы саму будоўлю на асобныя этапы. Гданьскія татары, якія маюць політэхнічную і будаўнічую адукацыю, зрабілі дакументацыю, арганізавалі працу і ажыццяўлялі тэхнічную кансультацыю. Такім чынам:

— інспектарам нагляду быў магістр, інжынер Мурат Байрашэўскі;

— паўнамоцнымі прадстаўнікамі інвестара, Камітэта будаўніцтва мячэці былі: магістр, інжынер Стэфан Мустафа Байрашэўскі (галоўны менеджэр будаўніцтва) і інжынер Алі Мухля;

тэхнічны нагляд ажыццяўлялі магістр Тамерлан Палтаржыцкі і яго намеснік Альрашыд Мількамановіч, аўтарскі нагляд — аўтар праекта магістр, інжынер Марыян Вшэлякі, з боку джаміята — Джаміля Смайкевіч-Мурман; аўтарам дакументацыі пабудовы быў інжынер Алі Мухля. Праект агароджы мячэці выканаў Марыян Мурман.

Бухгалтэрыю будаўніцтва вёў Стэфан Мухля, які быў таксама касірам Камітэта; у правядзенні тэхнічнага нагляду яму дапамагаў таксама Бекір Якубоўскі, аўтар праекта канцэпцыі асвятлення мячэці. Выканаўцам будаўніцтва быў Вацлаў Прычкоўскі, а тэхнічную дапамогу ажыццяўляў Пётр Скольскі. Дапамогу аказваў таксама Амар Ассановіч.

Будаўніцтва мячэці працягвалася 5 гадоў. Купал зала для малітвы мае 14 м вышыні, а мінарэт — 33 м. Для ашчаднасці куплялі будаўнічыя матэрыялы ў сваёй акрузе. Кошт усяго будаўніцтва склаў 48 тыс. даляраў ЗША.

Значную фінансавую дапамогу ў будаўніцтве мячэці ў Гданьску аказалі наступныя мусульманскія арганізацыі:

— Ліга Мусульманскага Свету з Саудаўскай Аравіі (35 тыс. даляраў ЗША);

— Ісламскі Цэнтр у Мюнхене (8 тыс. марак ФРГ);
— таксама Вялікі Муфтэй Лівана шэйх Гасан Ксалід (Рагматуллаг);
— таксама пасольствы ісламскіх краін у Варшаве.

Дзякуючы Аллагу, наша мара ажыццявілася, і мы збудавалі мячэць.

Аллаг акбар!

**Сялім Хазбіевіч.**

***

## У НАШЫХ СУПЛЯМЕННІКАЎ У ПОЛЬШЧЫ

Дарагі Ібрагім! 13 сакавіка канчаткова сфарміраваліся ўлады Польскай Рады Каталікоў і Мусульман. На жаль, Генеральным сакратаром абралі мяне. Зразумела, Рада мае ў складзе веравызнаўцаў-вернікаў нашых дзвюх канфесій. У кожнай групе па 7 асобаў. Між іншым, С.Хазбіевіч, Ю. Канапацкі, Г.Шагідэвіч у складзе нашай канфесіі. Паводле вядомых нам крыніцаў, гэта першая такая структура ў Еўропе. Далучаю нашую праграмную дэкларацыю. Папрашу цябе, нашага Смілавіцкага імама памаліцца за гэтую Раду, каб Усявышні і мне дапамог у гэтай піянерскай працы.

Салям табе, тваёй сям'і і ўсім знаёмым мне мусульманам.

**Мацей-Муса Канапацкі.**



## ПРАГРАМНАЯ ДЭКЛАРАЦЫЯ СУПОЛЬНАЙ РАДЫ КАТАЛІКОЎ І МУСУЛЬМАН

**(праект)**

**Варшава, 13 сакавіка 1998 г.**

**1.** Мэтай Супольнай Рады Каталікоў і Мусульман з'яўляецца дзейнасць, якая мае імкненне да пастаяннага ўзаемнага азнаямлення з рэлігіяй, культурай, гісторыяй Каталіцызму і Ісламу, імкненне да пераадолення стэрэатыпаў, якія ўзніклі з прычыны ўзаемнай незнаё-масці.

**2.** Рада ініцыіруе дзейнасць, якая мае на мэце паглыбленне знаёмства і разуменне шляхам заключэння і пашырэння кантактаў паміж абедзвюма рэлігіямі як у рамках мясцовых, так і дзяржаўных і міжнародных, пры захаванні поўнай тэалагічнай суверэннасці абодвух вызнанняў.

**3.** Рада рэалізуе сваю мэту праз забеспячэнне форуму для каталіцка-мусульманскага дыялогу.

**4.** Рада праводзіць інфармацыйную дзейнасць на тэму Каталіцызму і Ісламу, а таксама каталіцка-мусульманскіх адносін. Рада будзе ў сваёй дзейнасці імкнуцца да стварэння атмасферы, якая спрыяе свабодзе рэлігійных практык абедзвюх рэлігій, падкрэсліваючы тым самым павагу да інакшасці і асобнасці кожнай з іх.

**5.** Рада ў сваёй дзейнасці будзе прызнаваць права да звяртання да аўтарытэтных сродкаў абедзвюх рэлігій, да існавання асобнай традыцыі і захавання ўласнай культурнай свядомасці.

**6.** Рада ініцыіруе і праводзіць культурна-рэлігійны дыялог на платформе дыялогу жыцця, дыялогу спецыялістаў і дыялогу рэлігій-нага вопыту.

**7.** Рада адкрыта і для іншых хрысціянскіх вызнанняў.

**8.** Рада ўстанаўлівае і ўручае штогод узнагароду за дзейнасць, засведчаную дакументамі суіснавання абедзвюх рэлігій, а таксама за ўклад у каталіцка-мусульманскі дыялог.

**9.** Рада праводзіць шырокае азнаямленне з асноўнымі палажэннямі Каталіцызму і Ісламу праз арганізацыю лекцый, навуковых канферэнцый і выдавецкую дзейнасць.

**10.** Зыходзячы з вопыту ўзаемадзеяння абедзвюх рэлігій — 600-гадовай традыцыі мірнага суіснавання на землях Польскай Рэчы Паспалітай насельніцтва, якое вызнае Іслам і Каталіцтва. Сумесная Рада Каталікоў і Мусульман з надзеяй распачынае дзейнасць на справу мірнага супрацоўніцтва і суіснавання вернікаў абедзвюх рэлігій, а таксама папярэджвання канфліктаў як лакальных груповак, так і дзяржаў рознай культурнай традыцыі і рэлігіі.

***

## ШТО ТАКОЕ БЕЛАРУСАЗНАЎСТВА?

Калі спытаць аб гэтым чалавека, якому ўжо пасля трыццаці, то ён ці яна скажа, як той філосаф, вельмі прыблізна або — што “мы гэта не прахадзілі, гэта нам не задавалі”, або — гэта нешта пра БНФ, нешта калі не забароненае, то не падтрыманае “вертыкаллю”.

Яшчэ ў 1970-х гадах слова “беларусазнаўства” сведчыла аб тым, што карыстаўся ім калі не вораг народа, то, ва ўсякім разе, падазроны чалавек. У першым выданні Беларускай Савецкай Энцыклапедыі вы не знойдзеце такога тэрміна — артыкула. У першым томе ЭНЦЫКЛАПЕДЫІ ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ на старонках 346–348 за подпісам З.В.Шыбекі надрукаваны вельмі добры артыкул. Адсюль мы запазычым некалькі сказаў: “Беларусазнаўства, навука, што вывучае адметнасць і агульнасць беларусаў, іх нацыянальны рух, узаемаадносіны з суседзямі і ролю ў сістэме міжнароднай супольнасці народаў у мінулым і сучасным. Вызначаецца комплексным міждысцыплінарным падыходам да праблем даследавання. Здзяйсняе самапазнанне нацыі з мэтаю выпрацоўкі і ўдасканалення нацыянальнай тэорыі, вызначэння нацыянальнага шляху (аб'ядноўчай ідэі), аховы нацыянальных форм быцця, у якіх выяўляюцца заканамернасці агульначалавечага прагрэсу”. Цікаўны чытач “Байрама” прачытае гэты артыкул увесь.



На пачатку 1998 г. выдавецтва “Завігар” выпусціла ў свет кнігу, якая пазначана як вучэбнае выданне. Назва — “Беларусазнаўства”. Тыраж — 4000 экземпляраў. Склалі кнігу вядомыя вучоныя Пётр Брыгадзін, Эдуард Дубянецкі, Язэп Юхо, Павел Лойка, Уладзімір Ладысеў, Алесь Лозка, Лідзія Сямешка, Уладзімір Навумовіч, Анатоль Грышкевіч і Тамара Лойка. Над кнігай працавалі: рэдак-тар — Святаслаў Асіноўскі, мастацкі рэдактар — Уладзімір Якунін, карэктар — Софія Саламевіч, камп'ютарны дызайн — Наталля Нішт.

Працытуем яшчэ некалькі радкоў пра гэту кнігу з анатацыі, што змешчана на другой старонцы: “Кніга з'яўляецца першай комплекснай публікацыяй разнастайнага матэрыялу па беларусазнаўстве. З сучасных навуковых, хаця месцамі і дыскусійных пазіцый, выкладзены раздзелы аб этнагенезе, гісторыі дзяржаўнасці, мове, літаратуры, рэлігіі, менталітэце беларусаў. Змешчаны вучэбныя праграмы і спісы літаратуры па беларусазнаўстве.

Дапаможнік адрасаваны выкладчыкам вышэйшых і сярэдніх навучальных устаноў, студэнтам, а таксама ўсім, хто хоча глыбей пазнаць свой народ, сваю краіну, саміх сябе”.

Для тых, каму не пашчасціць адразу купіць ці ўзяць у бібліятэцы гэту кнігу, асабліва для маіх супляменнікаў-татар, падаю назвы яе раздзелаў і падраздзелаў, а ў дужках пазначаю старонкі, каб быў відаць аб'ём інфармацыі.

Хоць я сям-там вучыўся і ведаю, што раней чым чытаць кнігу, пацікаўся, хто гэту кнігу напісаў, аднак татарын перш за ўсё цікавіцца, што напісана, бо ні адно вельмі вядомае прозвішча не заменіць прыстойнасці і глыбіні думак, якія выкладзены на паперы. Прачытаўшы раздзел "Нацыянальныя меншасці", я пацікавіўся, хто яго напісаў. Магчыма, што пра татараў пісалі Эдуард Дубянецкі і



Уладзімір Навумовіч, а можа з іх нехта адзін. Напісана добра, з веданнем справы і, галоўнае, далікатна, як, дарэчы, і ўся кніга. Калі б нашаму татарыну давялося апынуцца далёка за межамі Беларусі, за Уралам, ці на беразе Татарскага праліва, то пра Беларусь тамтэйшым людзям ён цікава і змястоўна змог бы расказаць, калі б ведаў змест кнігі "Беларусазнаўства". Вядома, што і сучасным жыхарам Беларусі, калі яны сапраўды Беларусь лічаць сваёй Бацькаўшчынай, трэба ведаць усё тое, аб чым у гэтай кнізе распавядаецца, трэба давесці да розуму і сэрца сваім дзецям і ўнукам.

Спяшайцеся, татары, запасацца добрымі і цікавымі скарбамі памяці. І ніхто не палічыць вас за гэта хціўвымі і прагавітымі.

**Якуб Раньковіч.**

***

## АХМЕТ ВАЛЕЕЎ

Нарадзіўся А.М. Валееў у 1889 г. ў в. Кішкітбаш Балтачынскага раёна ў Татарстане ў мнагадзетнай сям'і. Бацька яго — Ахмет Валі Мухаммед працаваў улетку на полі заможных паноў, а ўзімку займаўся цяслярствам, будаваў дамы, клаў печы. Пры гэтым Ахмет Валі браў з сабою і сына. З 12-гадовага ўзросту А.М. Валееў пазнаў цяжкую працу селяніна і рабочага. 13-гадовым хлапчуком яго аддаюць знаёмаму ямшчыку, каб той падвёз хлопчыка да Казані на заробкі, але каварным падманам той прадае яго ў рабства казахскаму баю. У казахскім стэпе жыццё сапраўды было катаржнае: цяжкія кліматычныя ўмовы, дзе лета спякотнае, а зіма лютая, да 40° марозу, і цяжкая, непасільная праца, асабліва для дзіцяці. Гэта была сапраўдная школа выжывання. Жыццё навучала шмат чаму: здабываць агонь, збіраць з расы ваду, кіраваць напаўдзікім табуном коней, атарай авечак, абараняцца ад драпежнікаў. Прырода шчодра ўзнагародзіла Ахмета здароў'ем. Ён вучыўся ў старэйшых ветэрынарнай справе, хутка засвоіў казахскую, башкірскую, узбекскую мовы. Свабодалюбівы і рашучы, ён

робіць спробы збегчы — ды няўдачныя. Пасля кожнай з іх яго жорстка караюць. Незадаволены непакорнасцю нявольніка бай адпраўляе яго ў салдаты замест свайго сына. У 1907 г. пачынаецца яго служба ў царскай арміі на Далёкім Усходзе. Толькі цяпер з'явілася магчымасць даць аб сабе знаць родным, але маці не вытрымала такога іспыту — памерла, не дачакаўшыся вестак. Пачалася Першая міравая вайна, і ён трапляе на фронт ва Усходнюю Прусію. У апошнім баі, калі загінулі ўсе яго таварышы па зброі, Ахмет устаў на ўвесь рост і пайшоў насустрач смерці. Яму не хацелася больш страляць, яму не хацелася жыць. Увесь у крыві, паранены, ён трапляе ў палон.

Мужнасць і смеласць прымушаюць шукаць шляхі вызвалення. Ён робіць спробу збегчы, але яго ловяць і садзяць у турму. Каб не карміць вялікую армію ваеннапалонных, германскі ўрад раздае іх у рабства панам. Так ён трапляе ў сельскую мясцовасць і робіць спробу вярнуцца дамоў. Немцы адрэзалі шлях да Расіі, таму А. Валееў прабіраецца ў Аўстрыю і рашаецца прайсці Альпійскія горы, каб трапіць у Італію. Яму дапамог стары італьянец, які выхадзіў Ахмета, дапамог знайсці выйсце з цяжкага становішча. Пад Рымам ён знайшоў спачуваючых яму людзей, якія зрабілі патрэбныя дакументы, і пад відам камерсанта ён вярнуўся ў Петраград у пачатку 1917 г. Быў на службе ў ахове Магілёўскай стаўкі цара Мікалая II.

Рэвалюцыю сустрэў у Гатчыне пад Петраградам. Ваюе ў радах Чапаеўскай дывізіі, лёгка паранены, потым у 10-й арміі, на Паўднёвым фронце супраць Краснова і пад Царыцынам, дзе пачуў і ўпершыню убачыў І.Сталіна. У радах 16-й арміі ён удзельнічае ў вызваленні Беларусі. У цывільнай вопратцы, з мяшком на плячах выдае сябе за чалавека, які шукае працу. Збітага яго замыкаюць у хляве. Ратуе яго беларускі хлопчык, непрыкметна падкраўшыся да хлява. Часці Чырвонай Арміі разграмілі акупантаў. У гэтым баі Ахмет быў цяжка паранены і трапіў у бальніцу г. Бабруйска. Яго вылечылі. Тут, у бальніцы ён сустракаецца са сваёй будучай жонкай — прыгажуняй Марыяй Паўлаўнай, якая стала маці іх траіх дзяцей. На ўсё жыццё яны зберaглі каханне і разуменне.

У полымі рэвалюцыі і грамадзянскай вайны загінулі ў Татарыі малодшыя браты, згарэла хата, у якой трагічна загінула малодшая сястра, а старэйшая памёрла ад тыфу. У жывых застаўся адзін стары бацька.



У 1926 г. Ахмет уступае ў партыю, і ў 1926 г. яго пасылаюць арганізаваць першы племянны і адкормачны пункт у "Сельгаскамбінат".

А.М. Валееў і з ім дзесяць рабочых будуюць свінарнік, памяшканне для жылля, асобна адводзяць месца для племяннoй жывёлы, закладаюць плодагадавальнік. Астатнія землі адводзяць пад збожжавыя. Гэта была невялікая, але добра прадуманая гаспадарка. Акрамя некалькіх дзесяткаў свіней былі коні і каровы. Першы год працавала дзесяць чалавек, потым 12–15. Рабочыя не мелі зарплаты, толькі харчаванне. Аплату грашыма пачалі атрымліваць на трэці год работы. Прадукцыя ў першую чаргу ішла ў дзіцячыя ўстановы і рабочыя сталовыя. Племянную жывёлу прдвалі сельскім жыхарам. Гэта быў першы і сапраўдны вопыт калектыўнага гаспадарання.

У канцы 1932 г. Ахмета накіроўваюць працаваць на ваенны склад старшынёю прафкама і ветэрынарам. У той час не было на складзе прыбора, які б мог вызначыць сортнасць і якасць прадукцыі і фуражу. Бацька на вока ўмеў вызначыць колькасць бялкоў у збожжы, сортнасць і прыгоднасць іншых прадуктаў, правільна складзіраваць, каб было менш страт. Гэты склад забяспечваў прадуктамі і фуражом усе вайсковыя часці Магілёўскай вобласці. На складзе была і падсобная гаспадарка, якой таксама быў патрэбны спецыяліст.

Адмоўныя падзеі 1937 г. не абмінулі, зачапілі і ваенны гарадок, дзе мы жылі. Па паклёпу былой жонкі загадчыка склада былі арыштаваны ўсе кіраўнікі. Толькі загадчык склада Сільвановіч і старшыня прафкама Валееў не прызналі сябе вінаватымі і адхілілі ілжывыя нагаворы, выйшлі з-пад варты. Але цяжка захварэлі. Бацька ў 1938–1939 гг. знаходзіўся на лячэнні ў шпіталі г. Мінска. Для нашай сям'і гэта было цяжкім выпрабаваннем. На кволыя маміны плечы ляглі ўсе турботы: хворы бацька і дзеці.

У Мінскім шпіталі яго наведвае стары сябра У.І. Марзон, які пераводзіць яго ў спецклініку і зноў вяртае да жыцця. Назаўсёды ўдзячна наша сям'я гэтаму цудоўнаму, добраму чалавеку, сапраўднаму сябру.

Вайна навалілася на ўсіх з яшчэ больш цяжкімі выпрабаваннямі. Працаўнікі склада паспелі эвакуіраваць прадукты і іншыя рэчы, і ў апошні момант бацьку было даручана вывезці сем'і служачых. Літаральна ў апошнія гадзіны перад акупацыяй г.Бабруйска.

Па стане здароўя яму даюць бронь і адпраўляюць на працу ў г. Магнітагорск, дзе ён з 1941 па 1945 г. узначальвае брыгаду кокса-хімічнага цэха Магнітагорскага металургічнага камбіната. Праца ішла круглыя суткі, і людзі ў цахах елі і спалі, а хто не вытрымліваў — паміраў. Усе рабілі ўсё дзеля перамогі над ворагам.

У лютым 1945 г. пры аварыі ў цэху, ратуючы таварышаў па працы, бацька быў кантужаны і ў маі 1945 г. камісаваны.

У канцы 1945 г. ён збірае раскіданую па розных канцах краіны сям'ю, і мы вяртаемся ў Бабруйск.

І зноў ваенная служба ў войсках МУС. У 1957 г. ідзе ў адстаўку, але працуе ў розных грамадскіх установах.

У жніўні 1945 г. на вайне з Японіяй загінуў старэйшы сын Ахмета — Павел. У 1960 г. на цаліне трагічна загінуў другі яго сын — Пётр.

У розныя гады Ахмет быў абраны дэпутатам у Савет рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў, два разы выбіраўся ў Бабруйскі гарадскі Савет. У свае 95 гадоў ён не пакідаў асветніцкай работы сярод моладзі, быў актыўным членам ветэранскай арганізацыі.

Узнагароджаны ўсімі юбілейнымі медалямі, граматамі Вярхоўнага Савета БССР, Магілёўскага абласнога і Бабруйскага гарадскога Саветаў дэпутатаў.

У 1976 г. Валееў Ахмет Мухаммедавіч атрымлівае званне "Персанальны пенсіянер". Усе, хто яго ведаў, заўсёды паважалі як добрага і справядлівага чалавека.

Памёр Ахмет Мухаммедавіч Валееў у 1989 г., не дажыўшы ўсяго два месяцы да стогадовага юбілею.

**Зінатбана Валеева, дачка Ахмета**
**(г.Бабруйск)**

***



## ТУТЭЙШЫ

Добраму слову "тутэйшы", якое "Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы" (Мн., 1996, с. 669) тлумачыць: "Тутэйшы, які родам з гэтай мясцовасці, жыве тут, не прыезджы", — нададзена, так бы мовіць, негатыўнае значэнне. У час перапісу насельніцтва, які праводзіўся ў міжваенны перыяд у Польшчы (паміж канцом Першай і перад пачаткам Другой сусветнай вайны) значная колькасць людзей у Крэсах Всходніх вызначала сябе як "тутэйшыя". Малаадукаваныя перапісчыкі, варожа настроеныя чыноўнікі кпілі з беларусаў, быццам яны такія цёмныя, што не ведаюць, да якога народа належаць. Касцёл цвердзіў, калі чалавек жыве ў Польшчы і ходзіць у касцёл — ён паляк. Калі ж моліцца ў царкве — то рускі. А калі ж чалавеку хочацца быць чалавекам, калі ён не жадае, каб яго пісалі палякам ці рускім? Ён называў сябе тутэйшым. Каб лепш зразумець, які сэнс тутэйшы чалавек укладваў у гэтае паняцце, супаста-вім з процілеглым па значэнні словам. Антонімам будзе набрыдзь — "зброд, свалата" ("Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы" (Мн., 1996, с. 357). Беларусы — людзі вельмі тактоўныя і, каб не абражаць "заброшенных... на ловлю счастья и чинов" ці то з па-над Віслы, ці з па-над Волгі называлі іх "не тутэйшы".

І цяпер, калі дзесяцігоддзямі апяваліся і ўхваляліся тыя, у каго "адрес не дом, и не улица", чый "адрес Советский Союз", слова "тутэйшыя" асацыіруецца з паняццем недалёкага чалавека, а то і ворага.

Не буду называць тыя мясціны, дзе слова "тутэйшы" і пэўнае дадатнае стаўленне да яго з'яўляецца не пустым гукам. Там на пасаду старшыні калгаса, старшыні сельсавета, на пасаду ў раёне не праходзіць набрыдзь, а толькі добра вядомы тутэйшы, у каго дзяды і бацькі прыстойныя людзі. Ёсць такія раёны ў Брэсцкай, Мінскай, нават Віцебскай вобласці. Часам да набрыдзяў залічваліся не толькі замежнікі, але і з іншай вобласці беларусы, бо свой манкурт, які выракаецца сваёй мовы і сваіх звычаяў, бывае горшы за чужынца.

Вядомы выпадкі, калі ў выніку добрых, сумленных адносінаў да навакольнага насельніцтва прыезджы паступова станавіўся ўжо "наскім чалавекам" для тутэйшых.

Хачу прапанаваць беларускім татарам, каб яны не малпавалі тым, хто словы "тутэйшы", "самасційны" (так некаторыя кпяць з украінцаў), "местачковы" (так кпяць мінчане з тых, хто нарадзіўся ў Пухавічах ці Лынтупах) вымаўляе са здзекам, і па-лёкайску заглядалі ў вочы тым, хто валодае "великим и могучим".

У Янкі Купалы ёсць верш "Тутэйшы", напісаны ў 1913 г. на хутары Акопы, цяпер у Лагойскім раёне. "І толькі гэта "тутэйшы" як бясспрэчная ісціна, як паратунак звязвае яго з каранямі народнага быцця, дае сілу яго жыццядзейнасці" (А.М. Пяткевіч).

**Я. Сцёпінак.**

***

## ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ ДЛЯ БЕЛАРУСКІХ ТАТАРАЎ

**БОРТНІЦТВА**, лясное *пчалярства,* пачатковая форма культурнага пчалярства; адзін з найбольш старадаўніх промыслаў на Беларусі. Заснавана на развядзенні і ўтрыманні лясных пчол у штучных дуплах — борцях. Развілося з дзікага пчалярства. Як самастойны від ляснога промыслу прайшло тры этапы развіцця: ахова і догляд дзікіх пчол у знойдзеных дуплах, свядомае ўтрыманне аселенага рою ў прыстасаваных пад борці натуральных дуплах, развядзенне і ўтрыманне рою ў спецыяльна зробленых борцях.

Станаўленне бортніцтва як промыслу адбылося ў I ст. н.э. Пераход да класічнай яго формы адбыўся са з'яўленнем жалезных прылад працы, калі стала магчыма выдзёўбваць сырыя ствалы дрэў. Пазней рабілі вуллі-калоды, якія прывязвалі да дрэва або ставілі на дашчаныя палаці. Каб залучыць пчол,



новыя борці ці вуллі з сярэдзіны акрапялі настоем духмяных траў або мёдам, клалі ў іх воск ці пустыя соты. Для аховы борцей ад драпежнікаў (куніц, мядзведзяў) вакол дрэва рабілі спецыяльныя прыстасаванні накшталт бараны зубамі ўверх, у дрэва забівалі нажы, падвешвалі петлі, званочкі, бразготкі і інш.

Бортніцтва было пашырана на ўсёй тэрыторыі Беларусі. Свайго росквіту яно дасягнула ў X–XII стст. Яго ахоўвала звычаёвае, а пазней і «пісанае» права. *Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 года,* напрыклад, за крадзеж мёду з борцей прадугледжваў пакаранне ад штрафу да смяротнага прысуду. У сярэднія вякі бортнікі на Беларусі часта аб'ядноўваліся ў бортныя цэхі — карпаратыўна-прафесійныя аб'яднанні з шырокімі правамі самакіравання (вядомыя з XIV ст.). У гарадах і мястэчках у такія цэхі аб'ядноўваліся бортнікі з мяшчан і дробнай шляхты.

Вытворчая дзейнасць і побыт цэхаў рэгламентаваліся статутам, зацверджаным гарадской радай. Пры паступленні ў цэх бортнікі прымалі прысягу на адданасць, паслухмянства, захоўванне сакрэтаў і выкананне патрабаванняў бортнай юрысдыкцыі. Узначальвалі цэхі выбраныя на штогадовых агульных сходах бортны староста, падсудак і пісар; пазней у кіраўніцтва ўваходзілі два лаўнікі, а падсудка замяніў гаёвы (суддзя). Кожны цэх меў свой статут, пячатку, скарбонку, пратэсу (харугву) з выявамі патрона пчалярства Іаана Залатавуста, пчол і бортных рэалій. У час ваенных дзеянняў бортнікі выступалі ў складзе апалчэння пад сваёй цэхавай пратэсай (пячатка і пратэса віленскага бортнага цэха зберагаюцца ў саборы Пятра і Паўла ў Вільнюсе).

На працягу стагоддзяў бортніцтва задавальняла патрэбу ўсходніх славян у мёдзе і іншых прадуктах жыццядзейнасці пчол (*воск, прапаліс)*, якія былі галоўнымі відамі экспарту. У пачатку XVI ст. толькі праз Полацкую мытную камору штогод вывозілі больш за 2 тыс. пудоў воску. У той час на Беларусі было больш за 1 млн. борцей, таварная прадукцыя якіх перавышала 0,5 млн. пудоў мёду штогод.

Бортніцтва выпрацавала сваю тэхналогію ўтрымання і догляду пчол, адмысловую тэхніку вырабу борцей, бортных прылад і прыстасаванняў, посуду для захоўвання і транспарціроўкі мёду, сродкі аховы борцей.

З канца XVI ст. ў выніку масавых высечак лясоў на продаж, пад ворыва, для прамысловых мэт пачаўся заняпад бортніцтва. У 1-й палове XIX ст. яно страціла сваё ранейшае гаспадарчае значэнне і саступіла месца калоднаму пчалярству. На Беларусі, асабліва на Палессі, бортніцтва існавала да пачатку XX стагоддзя.

**У.С. Гуркоў, С.Ф. Цярохін.**

***

**БОРЦЬ**, вулей у дупле або ў выдзеўбанай калодзе, дзе жывуць пчолы. Гл. *Бортніцтва.*

***

**ВОСК**, прадукт, які робяць *пчолы.* Выдзяляецца з арганізма пчалы ў вадкім стане, гусне на паверхні васковых люстэрачкаў у выглядзе пласцінак. Толькі выдзелены пчаліны воск белы, пасля ад пропалісападобных (гл. *пропаліс)* рэчываў набывае жоўтую афарбоўку.

Хімічны састаў воску складаны. У ім каля 50 хімічных злучэнняў, якія можна падзяліць на тры групы: свабодныя тлустыя кіслоты (13–15%), складаныя эфіры (70–75%), гранічныя вуглевадароды (12–15%). У састаў воску ўваходзяць фарбавальныя рэчывы, ад якіх залежыць колер, а таксама араматычныя рэчывы, што трапляюць у воск з мёду і кветкавага пылку (гл. ў артыкуле *пярга)* і надаюць яму своеасаблівы пах.

Большую частку воску атрымліваюць, вытопліваючы яго з выбракаваных старых, пашкоджаных і сапсаваных сотаў, якія называюць с у ш ш у. Пэўную колькасць воску дае launched пяратопка вечкаў ячэек, васковых абрэзкаў, «язычкоў», смецця са дна вулляў, у якім ёсць воск. Такі воск называюць пчальніковым.



Воск, атрыманы пры заводскай перапрацоўцы пчальніковых вытапкаў, м я р в ы , называюць вытворчым.

Акрамя прыгатавання вашчыны, на якую ідзе асноўная колькасць воску, ён шырока выкарыстоўваецца ў прамысловасці (у тым ліку для вырабу высакаякасных шынаў), уваходзіць у састаў лыжнай мазі, масцікі для прышчэпвання дрэў, цэменту для склейвання мармуру і гіпсу, алоўкаў для малявання на шкле і інш. Шырока выкарыстоўваюць воск у касметыцы ў саставе пажыўных, вяжучых, ачышчальных, адбельвальных крэмаў, памад, розных іншых касметычных прэпаратаў. Толькі з пчалінага воску робяць *свечкі* для рытуальных мэт.

**З «Энцыклапедыі сельскага гаспадара», Мн., 1993 г.**

***

**ВУЛЕЙ**, спецыяльная скрынка або выдзеўбаная калода для *пчол.*

**МАТАЧНАЕ МАЛАЧКО**, падобная на смятану маса белага колеру, мае востры пякуча-кіслы смак, выдзяляецца глотачнымі залозамі маладых *пчол.* Пчолы кормяць ім лічынкі матак пяць дзён, а лічынкі рабочых пчол і *трутняў* — тры дні. Дарослая пчаліная матка на працягу ўсяго жыцця вясной і летам, калі адкладае яйцы, таксама жывіцца маточным малачком, якім яе забяспечваюць маладыя пчолы-карміцелькі. У састаў маточнага малачка ўваходзяць вада, бялкі, тлушчы, вугляводы, вітаміны, амінакіслоты і іншыя рэчывы. У медыцыне маточнае малачко выкарыстоўваюць для вытворчасці прэпарату апілак, які ў парфумнай прамысловасці ідзе на прыгатаванне розных мазяў.

**З «Энцыклапедыі сельскага гаспадара», Мн., 1993 г.**

***

**МЁД ПЧАЛІНЫ**, дзівосны дар прыроды (вернікі мёд лічаць Божым дарам), які нездарма называюць сокам ранішняй зары. Ён прыемны на смак, з’яўляецца каштоўным лячэбна-

прафілактычным сродкам. У ім больш за сто розных каштоўных для арганізма кампанентаў: цукры (глюкоза, левулёза), вітаміны, ферменты, арганічныя кіслоты, мікраэлементы, мінеральныя, гарманальныя, антыбактэрыяльныя і інш. рэчывы.

Мёд з кветак бывае манафлерны — выпрацаваны з нектару аднаго віду меданосных раслін: грэчкі, ліпы, акацыі белай, скрыпеню (шматгадовая травяністая расліна сямейства скрыпнёвых), сланечніку, фацэліі (род адна- і шматгадовых раслін сямейства вадаліснікавых) і інш., — і паліфлерны — лугавы, лясны, садовы і інш., выпрацаваны з нектару розных відаў меданосаў.

Паводле спосабу атрымання адрозніваюць сотавы і цэнтрабежны мёд. Першы — залітыя мёдам і залепленыя васковымі вечкамі ячэйкі, другі — атрыманы пры адпампоўванні яго з сотаў на медагонцы.

Мёд бывае бясколерны, афарбаваны ў жоўтыя колеры рознай інтэнсіўнасці, зеленавата-карычневы, чарнавата-карычневы, — усё залежыць ад фарбавальнікаў, якія ёсць у нектары. Смак большай часткі мёду салодкі з прысмакам, які можа быць горкі і непрыемны (напрыклад, малачаевы, чамярычны — нектар шматгадовай травяністай расліны сямейства лілейных), тонкі і далікатны (малінавы, канюшынны).

Водар мёду мае шырокі дыяпазон — ад яўных кветкавых да букета пахаў. У натуральных умовах мёд крышталізуецца і змяняе свой колер. Напрыклад, ліпавы мёд пасля крышталізацыі з светла-бурштынавага робіцца белым. Не крышталізуюцца або марудна падзевыя мяды, а таксама мяды, што награваюцца. Крышталізацыя мёду бывае салападобная, дробназярністая і буйназярністая (крышталі больш за 0,5–1 мм).

**Грэцкі мёд.** Цёмна-жоўтага з чырванаватым адценнем і цёмна-карычневага колеру, мае адменны пах і спецыфічны смак. Пры крышталізацыі ператвараецца ў кашападобную масу. Мае ў сабе 36–37% глюкозы і 40–42% левулёзы, значна больш бялкоў і жалеза, чым астатнія гатункі мёду. Рэкамендуецца пры лячэнні малакроўя. З нектару, сабранага з аднаго гектара грэчкі, пчолы робяць каля 60 кг мёду.

**Канюшынны мёд.** Бясколерны, празрысты, з высокімі смакавымі якасцямі — адзін з лепшых светлых гатункаў мёду. Пры крышталізацыі ператвараецца ў цвёрдую белую масу. Мае ў сабе 34–35% глюкозы і 40–41% левулёзы. Прадукцыйнасць аднаго гектара белай канюшыны — да 100 кг мёду.



**Верасовы мёд.** Цёмнага, цёмна-жоўтага і чырвона-бурага колеру з слабым пахам, прыемным або даўкім гаркаватым смакам, хутка застывае, таму яго часта бывае цяжка адпампаваць з сотаў. Непрыдатны для зімоўкі пчол. Прадукцыйнасць аднаго гектара квітучага верасу — да 200 кг мёду.

**Баркуновы мёд.** Светла-бурштынавага або белага колеру з нектару травяністых раслін сямейства бабовых. Адносіцца да першагатункавых мядоў з высокімі смакавымі якасцямі. Мае ў сабе 36–37% глюкозы і 39–40% фруктозы. Прадукцыйнасць аднаго гектара баркуну — да 600 кг мёду.

**Рапсавы мёд.** Белаваты, часам жаўтаваты, з прыемным пахам, прыкры, вельмі густы, хутка крышталізуецца, дрэнна раствараецца ў вадзе, калі доўга трымаць, закісае. Непрыдатны для зімоўкі пчол. Прадукцыйнасць аднаго гектара квітучага рапсу — да 50 кг мёду.

**Яблыневы мёд.** Светла-жоўтага колеру з выключна прыемным пахам. Мае ў сабе 31–32% глюкозы і 42% левулёзы. Прадукцыйнасць аднаго гектара саду — да 20 кг мёду.

**Лугавы мёд.** Звычайна празрыстага слаба-жоўтага, часам жоўта-карычневага колеру, з прыемным пахам і добрымі смакавымі якасцямі. Прадукцыйнасць мёду з гектара лугу вагаецца ў залежнасці ад травастою.

**Малінавы мёд.** Светлы, вельмі прыемнага паху, выдатны на смак. Мае ў сабе 33–34% глюкозы і 41–42% левулёзы. Прадукцыйнасць аднаго гектара лясных малін каля 70 кг, садовых — да 50 кг мёду.

**Ліпавы мёд.** Звычайна празрыстага слаба-жоўтага або зеленаватага колеру, спецыфічнага паху, выключна прыемнага смаку. Мае ў сабе 36–37% глюкозы і 39–40% левулёзы. Прадукцыйнасць аднаго гектара ліпы ў час цвіцення — 1000 кг мёду. Адносіцца да лепшых гатункаў мёду. Ліпу ў народзе за высокія меданосныя якасці называюць царыцаю меданосных раслін.

**Падзевы мёд.** Робіцца пчоламі не з нектару кветак, а з падзі — салодкіх выдзяленняў кішэчніка вельмі дробных на-

сякомых (тлі, чарвяцоў, лістаблошак і інш.) і мядовай расы (цук-рыстых выдзяленняў на лісці, галінках раслін), якія збіраюць пчолы. Асабліва многа падзі восенню, калі гарачыя дні чаргуюцца з халоднымі начамі. Мядовая раса адрозніваецца ад нектару вялікай колькасцю бялковых, мінеральных рэчываў і кіслот. Падзевы мёд звычайна цёмна-зялёнага колеру, цягучы, часта не вельмі прыемны на смак, з слабым пахам, менш салодкі, чым кветкавы. Падзь і мядовая раса часта трапляюцца ў выглядзе невялікага дамешку да натуральнага мёду. Зімой мёд з дамешкам падзі для пчол непрыдатны, яго замяняюць кветкавым або цукрам. Падзевы мёд выкарыстоўваюць у кандытар-скай прамысловасці.

**Атрутны «п'яны» мёд.** Робяць яго пчолы з нектару, сабранага з азалеі, рададэндрану пантыйскага, а таксама з багуну. Спажыванне гэтага мёду выклікае ў чалавека атручанне — узнікаюць ап'яненне, галавакружэнне, халодны пот, дрыжыкі, моташнасць, ірвота, галаўныя болі. З'еўшы больш за 100–120 г такога мёду, чалавек траціць прытомнасць, пачынаюцца трызненне, сутаргі.

**З «Энцыклапедыі сельскага гаспадара», Мн., 1993 г.**

***

**ПРОПАЛІС,** пчаліны клей, прадукт апрацоўкі *пчоламі* смалістых рэчываў, якія яны збіраюць з пупышак, лісця, галінак, кары лісцевых і хвойных дрэў, кустоў, траў і дастаюць з абалонкі зярнят пылку. Мае зеленаваты або карычневы колер, часам з чырванаватым або жаўтаватым адценнем.

У пропалісе 50–55% раслінных смол, каля 30% воску, каля 10% эфірных алеяў. Акрамя гэтага, у яго састаў уваходзяць розныя мікраэлементы. Пчолы выкарыстоўваюць пропаліс для абсталявання гнязда, падтрымання ў ім належных санітарных умоў, рэгулявання вентыляцыі, памяншэння лятка, замуроўвання шчылін.

Асноўная якасць пропаліса — яго высокае антымікробнае дзеянне. Таму ён усё больш шырока выкарыстоўваецца ў медыцыне для лячэння скурных, туберкулёзных захворванняў і захворванняў верхніх дыхальных шляхоў, грыбковых і запаленчых захворванняў слізістай абалонкі рота і інш. Пропаліс здабываюць, саскрабаючы яго са сценак вулляў, брускоў рамак, сталяніц, анучы. Захоўваюць у цёмным памяшканні. Гл. таксама артыкул *Пчала.*



**З «Энцыклапедыі сельскага гаспадара», Мн., 1993 г.**

***

**ПЧАЛА,** жывая істота, якая выконвае вялікую ролю ў жыцці кветкавых раслін (апыленне), жыўленні і лячэнні чалавека, пазнанні ўзаемаадносін паміж істотамі. Калі здараецца гібель пчалінай сям'і, то ў беларусаў кажуць: "Пчолы памерлі", — як пра чалавечую істоту.

Вялікай павагай карыстаецца пчала ў мусульман. "Ан-нахль" — так названа 16-я сура Свяшчэннага Кур'ана. Гэта слова перакладаецца "Пчала" (гл. аяты 69 (68) і 70 (69). У Кур'ане, які Аллаг паслаў праз Джабрыла (Гаўрыіла) Пасланніку Мухаммеду ў першай палове VII стагоддзя, пра пчол расказана многае з таго, аб чым навукоўцы даведаліся пасля шматвяковых даследаванняў, але многае ў жыцці пчол і сёння яшчэ не растлумачылі.

Пчала — адзін з сімвалаў чалавечай руплівасці, старанасці, працавітасці: стараннага чалавека абавязкова параўноваюць з пчалою або мурашкаю (дарэчы, яны — далёкія сваякі: тып членістаногіх, клас насякомых).

Цела пчалы мае цвёрдае покрыва з найдрабнейшымі валаскамі — кутыкулу, якая служыць шкілетам і апораю для ножак і крылцаў. Для збору кветкавага пылку на ножках пчалы ёсць кошычкі, грабеньчыкі, шчотачкі. Нектар з кветак пчала ўсмоктвае ў мядовы валлячок з дапамогаю хабатка, які ўтвараецца з ніжняй сківіцы і ніжняй губы. Ляціць яна з дапамогаю двух пар крылаў. Трымацца ў паветры пчале памагаюць і тры паветраныя мяшкі, размешчаныя ў галаве, грудзях і брушку.

Развітыя органы нюху, дотыку, смаку, зроку памагаюць пчале лёгка знаходзіць крыніцы медазбору. Напрыклад, з дапамогай органаў нюху пчала чуе пах кветак і хутка знаходзіць іх у радыусе 1,5–2 км і больш.

У пчалы пяць вачэй: два вялікія складаныя (фасетачныя) і тры простыя. Складаныя вочы — гэта мноства дробных вочак (фасетак). Кожная фасетка вока ўспрымае нязначную частку прадмета, але ўсе разам яны дазваляюць бачыць прадмет з яго найдрабнейшымі дэталямі. Асабліва добра пчала адрознівае сіні, блакітны, жоўты і белы колеры. У палёце пчала арыентуецца па сонцы. Простыя вочы памагаюць ёй арыентавацца ў цемнаце.

Стрававальная сістэма пчалы, акрамя асноўнай функцыі, адыгрывае яшчэ і ролю рэзервуара для часовага захоўвання нектару і мёду пры яго заборы і пераносе і прыстасавана таксама для асаблівых умоў жыцця і жыўлення на працягу доўгага зімовага перыяду, калі пчолы не могуць пакідаць сваё гняздо.

У выніку працяглага натуральнага адбору ў розных паводле ўмоў жыцця зонах сфарміраваліся мясцовыя або геаграфічныя пароды пчол з характэрнымі для кожнай з іх марфалагічнымі і агульнабіялагічнымі ўласцівасцямі (пладавітасць, тэмп развіцця, прадукцыйнасць, зімаўстойлівасць, адносіны да пэўных відаў меданосных раслін). З іх найбольшае пашырэнне атрымалі сярэднеруская, шэрая горная каўказская, краінская, карпацкая, украінская стэпавая, італьянская пароды. Для развядзення на пчальніках Беларусі рэкамендаваны карпацкія пчолы.

Колер цела пчол карпацкай пароды шэры. Даўжыня хабатка 6,3 мм. Пячатка мёду белая. Зімаўстойлівасцю не саступаюць сярэднярускім пчолам. Выключна міралюбівыя, пры аглядах гнязда спакойныя. Вясною пчолы гэтай пароды хутка нарошчваюць сілу сям'і і падтрымліваюць яе ўвесь сезон. Паскораны рост сем'яў карпацкіх пчол не даводзіць іх да раення нават пры запазненні з пашырэннем гнёздаў і адсутнасці ўстойлівага медазбору. Гэта біялагічная асаблівасць «карпатак» мае вялікае практычнае значэнне, бо істотна зніжае непрадукцыйныя затраты рабочага часу і страты пчаляроў (раі, якія выходзяць, пераважна ўцякаюць з пчальніка, а ў сем'ях, што збіраюцца раіцца, аслабляецца лётная работа пчол і падае іх прадукцыйнасць). Карпацкія пчолы добра выкарыстоўваюць ранні вясновы, сярэдне- і позналетнія медазборы, актыўна працуюць у садах, на канюшыне і грэчцы. Па меданоснай прадукцыйнасці яны займаюць першае месца сярод усіх парод, якія вывучаюцца.



П ч а л і н а я  с я м ' я — гэта цэлая біялагічная і гаспадарчая адзінка: ні адна з асобін, якая ў яе ўваходзіць, не можа існаваць, жыць і размнажацца па-за ёю, кожная можа выконваць свае функцыі толькі ў цеснай узаемасувязі з астатнімі асобінамі. Пчаліная сям'я складаецца з адной пладнай маткі, многіх тысяч рабочых пчол і значнай колькасці трутняў-самцоў, якія жывуць у сям'і толькі летам. Чым болей пчол у сям'і, тым яна мацнейшая, тым большыя зборы мёду.

М а т к у паводле знешняга выгляду лёгка адрозніць ад рабочых пчол — яна даўжэйшая (даўжыня цела маткі — 18–20 мм, рабочых пчол — 12–15 мм) і большая за іх (сярэдняя маса маткі ў час адкладання яец 0,25 г, маса рабочых пчол у сярэднім 0,1 г). Матка выводзіцца з аплодненага яйца на 16–17-я суткі пасля яго адкладвання ў прызначаную для яе вырошчвання спецыяльную васковую ячэйку. Праз 6–8 сутак пасля выхаду з матачніка матка дасягае палавой спеласці і вылятае з вулля для сустрэчы і спароўвання з трутнямі. Летам пры спрыяльных умовах яна адкладвае за суткі каля 2 тыс. і больш яец; за вясенне-летні перыяд — 150–160 тыс. яец. Матка заўсёды знаходзіцца ў вулеі. Самастойна, без пчол яна жыве не больш як 2–3 дні, у клетачцы з невялікай колькасцю пчол — 15–20 дзён, часам каля месяца. У сям'і матка можа жыць 5–6 гадоў, але трымаць яе варта не больш як два гады, бо з трэцяга года яна менш плодная, рана заканчвае адкладванне восенню і пазней пачынае вясною, павялічвае адкладванне неаплодненых яец, горш зімуе.

Узрост маткі і яе спадчынныя асаблівасці аказваюць велізарны ўплыў на стан пчалінай сям'і — яе сілу, зімаўстойлівасць, прадукцыйнасць. Сёлетнія маткі адкладваюць яйцы восенню (прыкладна на 10 дзён даўжэй і на 7,3% больш, чым двухгадовыя, на 17 дзён даўжэй і ў 2,9 раза больш, як трохгадовыя). Пчаліныя сем'і з аднагадовымі маткамі збіраюць мёду на 42,4%, з двухгадовымі — на 20,8% болей, чым трохгадовымі, расходуюць корму на зіму з аднагадовымі маткамі ў сярэднім

на 29,1%, з двухгадовымі — на 25% менш, чым з трохгадовымі. Акрамя гэтага, у сем'ях з трохгадовымі маткамі ў асенне-зімовы перыяд пчол гіне ў 3 разы болей, чым у сем'ях з аднагадовымі маткамі; трохгадовыя маткі за зімовы перыяд гінуць у сем'ях у 50 разоў часцей, чым аднагадовыя.

Узрост матак уплывае і на раенне пчол: сем'і з двухгадовымі маткамі раяцца ў 3 разы часцей, чым з аднагадовымі. Такім чынам, своечасовая замена двухгадовых матак на маладых з'яўляецца абавязковым тэхналагічным прыёмам павышэння сілы і прадукцыйнасці пчаліных сем'яў, барацьбы з раеннем, а таксама паляпшэння вынікаў зімоўкі пчол.

Неабходнасць падсадзіць матак у пчаліныя сем'і ўзнікае не толькі тады, калі трэба замяніць старых матак, але і пры папраўцы тых сем'яў, якія па розных прычынах страцілі матак, пры фарміраванні адводкаў, замену адной пароды пчол на іншую і г.д. Вядома многа спосабаў (больш за 50) замены і падсадкі матак у пчаліныя сем'і.

Рабочыя пчолы — гэта жаночыя асобіны з недаразвітымі палавымі органамі. У сям'і з маткаю яны яец не адкладваюць. Але калі сям'я доўгі час не мае маткі і не можа вывесці новую, частка рабочых пчол набывае здольнасць адкладваць невялікую колькасць неаплодненых яец, з якіх выходзяць трутні. Такіх пчол называюць пчоламі-трутнёўкамі.

Рабочыя пчолы робяць усе работы ў вулеі. Гэтыя работы ў гняздзе размяркоўваюцца паміж паасобнымі іх групамі. Маладая пчала ў сям'і можа рабіць любую работу: яна мае для гэтага добра развітыя органы і залозы. Аднак з усіх магчымых работ пчала выконвае тую, якая патрэбна якраз на пэўным участку сотаў. Самі абставіны, што дзеюцца навокал, выклікаюць у яе адпаведны рэфлекс. Так, напрыклад, калі пчала трапіла на ўчастак сотаў з маладымі лічынкамі, яна пачынае даваць ім корм, трапіўшы на соты, дзе лічынак, якія выраслі, запячатваюць вечкамі, яна выконвае пэўную частку гэтай работы і г.д. Ні адна пчала не робіць работы да канца, а толькі невялікую яе частку. Наступная пчала, якая апынулася на гэтым самым месцы, дарабляе тое, што засталося зрабіць. Так,



у выніку дзейнасці многіх дзесяткаў, а то і соцень пчол работа даводзіцца да канца.

Маладыя пчолы пераважна чысцяць ячэйкі, у якіх яны самі вывеліся, кормяць лічынкі старэйшых, а пасля — маладзейшых, выдзеляюць воск. Як крыху падрастуць, маладыя пчолы становяцца будаўнікамі сотаў, вартаўнікамі каля лятка, прыёмшчыцамі нектару і г.д.

Другую палавіну жыцця пчолы працуюць у полі — збіраюць і носяць у вулей нектар і пылок. Такім чынам, усіх пчол сям'і можна падзяліць на вуллёвых (нялётных) маладых пчол, што вырошчваюць расплод і робяць іншыя работы ў гняздзе, і палявых (лётных), якія збіраюць нектар і пылок з кветак раслін.

Пераход ад вуллёвых работ да палявых залежыць ад стану пчалінай сям'і і наяўнасці медазбору. Вясною, калі сям'я развіваецца, маладыя пчолы пачынаюць збіраць корм з 15–20-га дня; у такі час у полі працуе толькі 10–15% пчол сям'і. Летам жа маладыя пчолы пераходзяць да лётнай работы на 10–14-ы дзень жыцця. Пры вялікім медазборы частка пчол ужо з 4–5-га дня жыцця пачынае працаваць у полі, абмінаючы работы па вырошчванні расплоду. Палявых пчол у разгар сезона можа быць 50–60% ад усіх пчол сям'і.

Лётныя пчолы паводле сваіх функцый падзяляюцца на пчол-разведчыц і пчол-зборшчыц. Зранку першымі ў поле вылятаюць пчолы-разведчыцы, якія, знайшоўшы нектар, набіраюць яго ў свае мядовыя валлячкі і вяртаюцца ў вулей, дзе паведамляюць пчолам-зборшчыцам пра знойдзеную крыніцу корму. Пры гэтым пчала-разведчыца праллазіць у скопішча пчол-зборшчыц і сярод іх робіць на сотах спецыяльныя сігнальныя рухі. Зборшчыцы ўспрымаюць іх як сігнал, каб ляцець па корм.

Разведчыцы ад астатніх пчол адрозніваюцца знешнім выглядам: гэта «лысыя пчолы» (без валаскоў), якія здаюцца чорнымі. З першых дзён работы ў пчол-разведчыц валаскі ломяцца і выпадаюць у час энергічных сігнальных рухаў сярод пчолзборшчыц. Зборшчыцы, прынёсшы ў вулей нектар, самі яго ў ячэйкі сотаў не складваюць, а перадаюць маладым пчолампрыёмшчыцам.

Трутні паяўляюцца ў пчалінай сям'і вясною і летам. Ніякай работы яны не робяць, адзіная іх функцыя — апладненне маткі. Палавой спеласці труцень дасягае ва ўзросце 10–14 сутак. Пасля спароўвання з маткаю, сустрэча з якою адбываецца ў палёце, ён гіне. Жывуць трутні каля двух месяцаў. Восенню пчолы выганяюць іх з вулея, і яны гінуць, а ў сям'і без маткі або ў сям'і, дзе пчолы самі выявілі, што іх матку трэба замяніць, трутні застаюцца на зіму.

Выбар месца для пчальніка (пасекі). Яно павінна быць надзейна ахавана ад вятроў, а ранняй вясною добра праграваецца сонцам. У населеных пунктах пчальнікі агароджваюць зялёным жывым плотам або плотам вышынёю 2 м.

Здаўна вядзецца, што пчальнік размяшчаюць у садзе. Гэта і зразумела: лепшага месца для пчол на прысядзібным участку не знайсці. Пчолы паводле паходжання — жыхары лесу і лепш сябе адчуваюць ва ўмовах, блізкіх да натуральных, — сярод дрэў і кустоў. Сад зацяняе вуллі ў спёку, і іх насельніцы куды менш пакутуюць ад гарачыні, чым на адкрытым месцы. Дрэвы засланяюць пчальнік ад моцных вятроў, і пчолам у вуллях працсей зберагаць цяпло ў любую пару года. І «працаваць» у зацішку лягчэй — ляцець па нектар, вяртацца дадому: пладовы сад — выдатны арыенцір, па якім і маладыя пчолы беспамылкова, не блукаючы з цяжкай ношаю, адшукваюць родны пчальнік. І, відаць, самае галоўнае: сад для пчол — крыніца жыўлення. Але і пчолы ніколі не застаюцца ў даўгу перад садам. Апыляючы расліны, яны забяспечваюць найлепшую ўмову фарміравання шчодрага ўраджаю. Нездарма кажуць: «Калі пчала ў садзе — будзе і яблык на галіне».

Калі ёсць магчымасць, лепш пчальнік размяшчаць паблізу лесу або поймы рэчкі з багатай меданоснай расліннасцю. Але ў кожным выпадку пажадана выбіраць для гэтага паўднёвы бок прысядзібнага участка або сада, далей ад дарог, а вуллі размяшчаць так, каб на шляху асноўнага лёту пчол да меданосаў не было вялікага руху машын або жывёлы, а таксама жылых дамоў і вытворчых пабудоў.

Непрыдатныя для размяшчэння пчальніка адкрытыя і вельмі высокія мясціны, а таксама катлавіны і нізіны, дзе доўга трымаецца туман і хлоднае паветра. Нельга размяшчаць пчальнікі паблізу вялікіх азёр і шырокіх рэк: калі на супроцьлеглым іх беразе растуць меданосы, шмат пчол будзе тануць. Нельга ставіць вуллі на пералёце паміж чужым пчальнікам і меданоснымі участкамі або ззаду за іншым пчальнікам: у ветранае надвор'е пчолы будуць залятаць у вуллі, што стаяць спераду, і там астануцца жыць.



Вуллі на пчальніку размяшчаюць так, каб яны знаходзіліся ў цяню і былі заслонены ад паўдзённага сонца. Адлегласць паміж імі 3–4 м, паміж радамі — 4–6 м. На невялікай тэрыторыі вуллі можна размяшчаць парамі або па адным праз 0,7–1 м паміж імі. Каб пчолы і маткі лепш арыентаваліся, вуллі фарбуюць у розныя колеры (белы, жоўты, сіні), а паміж імі саджаюць кусты парэчак, агрэсту або маліны. Вуллі ставяць на падстаўкі 30–50 см ад зямліляткамі на ўсход або на паўднёвы ўсход, з нахілам да 5° у бок летка.

**З «Энцыклапедыі сельскага гаспадара», Мн., 1993 г.**

***

**ПЧАЛЯРСТВА,** галіна сельскай гаспадаркі, якая займаецца развядзеннем *пчол* для атрымання *мёду, воску, матачнага малачка, прапалісу, пчалінага яду, пяргі,* а таксама апылення сельскагаспадарчых культур. На Беларусі пчалярства мае апыляльна-мядовы кірунак. Пчолы штогод апыляюць больш за 130 тыс. га пладовых насаджэнняў, больш за 100 тыс. га насеннай канюшыны і іншых бабовых культур, больш за 40 тыс. га грэчкі і дрэвава-кустовых лясных і дэкаратыўных насаджэнняў. Лічаць, што дзейнасць пчол як апыляльніц раслін у некалькі разоў пераўзыходзіць прыбытак ад мёду.

Па колькасці пчаліных сем'яў у былым СССР Беларусь займала трэцяе месца (пасля Расіі і Украіны), налічвала каля 400 тыс. пчаліных сем'яў, большасць іх прыпадала на невялікія пчальнікі на прысядзібных участках. Ёсць і буйныя пчальнікі, па некалькі соцень пчаліных сем'яў. Некаторыя саўгасы і калгасы ў залежнасці ад цвіцення меданосаў вуллі вывозяць на аддаленыя ад бліжэйшых меданосных угоддзяў масівы дадатковага медазбору і апылення пчоламі сельскагаспадарчых

культур (напрыклад, вясной пчальнікі вывозяць у вялікія сады, затым у лес на маліну, крушыну і разнатраўе, у ліпені — на грэчку, чырвоную канюшыну, у верасні — на верас і чырвоную канюшыну перад другім укосам).

Навукова-даследчая работа па пчалярстве вядзецца пераважна ў Беларускім навукова-даследчым інстытуце бульбаводства і плодаагародніцтва, Беларускім навукова-даследчым інстытуце эксперыментальнай ветэрынарыі. На Беларусі ёсць спецыялізаваныя гаспадаркі, якія разводзяць пчол, вядуць селекцыйна-племянную работу па вывядзенні новых іх ліній і паляпшэнні гаспадарча-карысных уласцівасцей.

**Баранавіцкі пчолагадавальнік**, у Баранавіцкім раёне каля в.Цюкантавічы (з 1947 г.). Разводзіць краінскіх пчол, вядзе селекцыйна-племянную работу па вывядзенні новых іх ліній і паляпшэнні гаспадарча-карысных уласцівасцей. У пчолагадавальніку (пл. 59 га) пчальнік — 1 тыс. пчаліных сем'яў, участкі меданосаў (канюшына, рапс, баркун, фацэлія і інш.). Прадукцыйнасць пчалінай сям'і 32 мядовыя адзінкі. Рэалізуе (штогод) 1 тыс. пчаліных пакетаў, больш як 10 тыс. пчаліных матак.

**Брэсцкі пчолагадавальнік**, у в.Радванічы Брэсцкага раёна. Разводзіць чыстапародных лясных цёмных сярэднерускіх пчол, вядзе селекцыйна-племянную работу па паляпшэнні іх беларускай папуляцыі. Пчальнікі на 1 тыс. пчаліных сем'яў у Брэсцкім і Маларыцкім раёнах. Прадукцыйнасць пчалінай сям'і 34–35 мядовых адзінак. Рэалізуе (штогод) 5–10 т таварнага мёду, каля 100 кг кветкавага пылку і пропалісу, больш за 0,9 тыс. пчаліных пакетаў, каля 8 тыс. пчаліных матак.

**Гродзенскі пчолагадавальнік**, у Гродзенскім раёне каля в.Казіміраўка (з 1947 г.). Разводзіць карпацкіх пчол, вядзе селекцыйна-племянную работу па паляпшэнні іх папуляцый. У пчолагадавальніку (пл. 50 га) пчальнік (1 тыс. пчаліных сем'яў) з участкамі найлепшых меданосаў для пчол (грэчка, канюшына, разнатраўе і інш.). Прадукцыйнасць пчалінай сям'і 28,6 мядовых адзінак. Рэалізуе (штогод) 1–1,5 т таварнага мёду, 4–6 кг пропалісу, каля 1 тыс. пчаліных пакетаў, каля 4 тыс. пчаліных матак.



У Менску, Брэсце дзейнічаюць гарадскія таварыствы пчаляроў-аматараў.

На Беларусі спрадвеку было пашырана пчалярства — *бортніцтва*.

На пачатак 1994 г. пчалярствам займаліся 1087 калгасаў і саўгасаў, 18 міжгаспадарчых пчолапрадпрыемстваў і вышэй названыя тры спецыялізаваныя пчолагадавальнікі. Значная колькасць пчаласем'яў на падвор'ях і ў фермерскіх гаспадарках. Найбольшыя (па 600–1000 пчаліных сем'яў) пчолагаспадаркі: Бярозаўская, Пружанская, Зэльвенская, Мастоўская, Слонімская, Шчучынская. Дзейнічаюць Негарэльскі воскаперапрацоўчы і вуллёвы заводы. У 1993 г. з 1501 пчальніка (81,2 тыс. пчаліных сем'яў) атрымана 8,4 тыс. ц мёду.

Развіццю пчалярства пры пэўных умовах могуць шкодзіць масавае выкарыстанне ў сельскай і лясной гаспадарках пестыцыдаў і хваробы пчол.

**А.А. Астапенка.**

**(Беларусь. Энцыклапедычны даведнік. Мн., 1995. Стар. 610)**

***

**ПЯРГА,** кветкавы пылок, прынесены ў вулей *пчоламі*, адкладзены ў ячэйкі сотаў. Там ён праходзіць ферментацыю, заліваецца мёдам. З'яўляецца найкаштоўнейшым прадуктам жыўлення пчол. Мае вялікую колькасць біялагічных кампанентаў, што аказваюць моцнае фізіялагічнае ўздзеянне на жывёльныя арганізмы. У састаў кветкавага пылку ўваходзяць складаныя бялковыя злучэнні, свабодныя амінакіслоты, уся група вітамінаў, мікраэлементаў, тлушчы і вугляводы. Наяўнасць гэтых кампанентаў залежыць ад раслін, з якіх пылок збіраўся, і ад часу яго збору. Кветкавы пылок у жыццядзейнасці пчалінай сям'і — адзіная крыніца бялковага і вітамінна-мінеральнага жыўлення. Без пылку пчолы не могуць выхоўваць расплод, вырабляць воск, матка перастае адкладваць яйцы.

**З «Энцыклапедыі сельскага гаспадара», Мн., 1993.**

***

**РАЕННЕ ПЧОЛ,** 1) прыроднае — размнажэнне сямей *пчалы.* Пры раенні пчолы-разведчыцы знаходзяць новае жыллё, і па іх сігнале частка маладых пчол з маткай, якая далучаецца да іх, — рой (сям’я пчол, масай 1–2 і больш кг — 10000–20000 асобін) імкліва пакідае вулей, падымаецца ў паветра, некаторы час кружыцца і «прышчэпліваецца» (збіваецца ў кучу) на суку дрэва, затым адлятае на іншае месца, дзе стварае новае гняздо (у прыродных умовах — у дуплах дрэў і іншых сховішчах). Бывае ў першай палавіне лета (на Беларусі пераважна ў чэрвені), калі пчаліная сям’я мае вялікую колькасць пчалінага расплоду і лішак маладых рабочых пчол. Ад адной пчалінай сям’і можа аддзяліцца некалькі раеў, што ў пчолагаспадарках не дапускаюць, каб не аслабляць і не памяншаць прадукцыйнасці пчаліных сем’яў. Паводле старадаўняга звычаю, права на рой мае гаспадар (асабістай пасекі ці калгасна-дзяржаўнай), а дапамогу ў асаджэнні новай пчалінай сям’і аказваюць людзі, дзе «прышчапіліся» пчолы.

2) Штучнае раенне пчол — аддзяленне ад пчалінай сям’і часткі пчол і падсаджванне да іх маткі або змяшчэнне іх у спелы матачнік.

***

**ТРУЦЕНЬ,** самец у пчалінай сям’і. Гл. ў артыкуле *Пчала.*

Трутнямі называюць тых, якія жывуць за кошт чужой працы (наогул за кошт людзей ці за кошт сваіх родных і блізкіх).

***



## ЖАВАЦЬ ЦІ НЕ ЖАВАЦЬ?

Еду я электрычкай дамоў з дачы, а непадалёк ад мяне сядзіць прыгожая дзяўчынка; тварык як бы татарскі, але яна жуе. Жуе хвіліну, можа пяць хвілін. Хацелася мне паціхеньку зрабіць заўвагу, што не вельмі гэта дараіць для такой прыгажуні, але ўстрымалася. Бо мой унучок Алі (у пасведчанні пра нараджэнне яго імя запісана як Аляксандр) таксама жуе. Гэта можа не так шкодна, як віно, ці курава. Я свайму Алючку казала: кінь ты гэту шкодную звычку. Бо табе хутка ісці ўладкоўвацца на працу, а начальнікі не любяць жавуноў. Калі трэба слухаць указанне начальніка, а хлопец... жуе. Ды і ў войску, хоць у статуце не напісана, што пасля каманды “смірна” нельга жаваць, але такая вольнасць наўрад ці спадабаецца таварышу сяржанту. Каб у хлопца быў бацька (ён, вядома, быў, але пакінуў сям'ю, бо вельмі распіўся, і мая Каміля прагнала яго). Бацька, вядома, мог бы забараніць сыну жаваць без патрэбы. Унучак мне даводзіць, што жуйка вельмі карысная: яна ачышчае зубы (лепш было бы чысціць зубы пастай нанач і зранку), сліна прамывае страўнік, развіваюцца сківічныя мышцы. Моцныя сківіцы — прыкмета валявога чалавека. Для мяне жавун нагадвае карову, якая гадзінамі ляжыць пасля папасу і жуе, відаць, ні аб чым не думаючы. А можа мне так здаецца, што карова ні аб чым не думае? Можа яна філосаф і задаволена тым, што нікуды не спяшаецца, што не думае аб тым, падабаецца яна каму ці не.

Я не доктар і не аўтарытэт для Алючка, калі кажу, што празмерная работа слінных залозаў можа дрэнна скончыцца, бо ў кожнага чалавечага органа ёсць свой рэсурс. Можа пад старасць запас арганізма на выраб сліны выпрацуецца, і праглынаць ежу будзе цяжка. Думаю я яшчэ, што звычка да жуйкі можа пашкодзіць пры выкананні посту Рамазан (Рамадан), бо на працягу светлай часткі сутак нават сліну нельга глытаць. Людзі посцяцца, а тут нехта, як бычок, меланхалічна жуе. Унучак, кажу яму, а як прыдзецца табе жаніцца, і ты прыйдзеш да бацькоў сваёй дзяўчыны і папросіш іх даць згоду на шлюб, а сам у гэты час жуеш. Памятаю я, як у

час маёй маладосці была мода ў хлопцаў насіць доўгія валасы і порткі з вельмі вузенькімі калашынамі, што трэба было намыліць ногі, каб надзець тыя штаны-нагавіцы. Бацькі мае не аддалі мяне замуж за такога кандыдата ў мужы. Ну, і добра зрабілі, бо той хлопец аказаўся не здольным працаваць, мяняўмяняў працу і нарэшце зусім спіўся.

Можа сярод чытачоў "Байрама" ёсць чалавек, які ведае мусульманскую этыку, дасць параду, як растлумачыць жавунам, ці добрую звычку яны набываюць сабе, слухаючы рэкламу пра "зимнюю свежесть" і асалоду "ва ўсёй істоце". Тады я ці супакоюся, ці буду выхоўваць (а можа, больш правільна, перавыхоўваць, свайго Алючка). А можа яго вылечыць таварыш сяржант?

**Рузыя з Менска.**

***



## ПРА СОКАЛА І ВУЖА

Мора агромністае, гультаявата ўздыхаючае каля берага і нерухомае ўдалечыні, аблітае блакітным ззяннем месяца, — заснула. Мяккае і серабрыстае, яно злілася там з сінім паўднёвым небам і глыбока спіць, адлюстроўваючы ў сабе празрыстую тканіну перыстых воблакаў, нерухомых і не хаваючых залатых узораў зорак. Здаецца, што неба ўсё ніжэй нахіляецца над морам, жадаючы зразумець тое, аб чым шэпчуць неўтаймоўныя хвалі, якія сонна ўспаўзаюць на бераг.

Горы, парослыя дрэвамі, выродліва выгнутымі нордостам, рэзкімі ўзмахамі паднялі свае верхавіны ў сінюю пустэчу над імі, суровыя контуры іх акругліліся, адзетыя цёплай і ласкавай імглой паўднёвай ночы.

Горы важна задумлёныя. З іх на пышныя зеленаватыя грабяні хваль упалі чорныя цені і ахінаюць іх, як бы жадаючы прыпыніць рух, заглушыць незмаўкальны плеск вады і ўздыхі пены, — усе гукі, якія парушаюць таемную цішыню, разлітую навокал разам з блакітным срэбрам ззяння месяца, яшчэ схаванага за горнымі вяршынямі.

— А-ала-ах-акбар!.. — ціха ўздыхае Надыр-Рагім-Аглы, стары крымскі чабан, высокі, сівы, абпалены паўднёвым сонцам, сухі і мудры стары.

Мы з ім ляжым на пяску каля вялізнага каменя, які адарваўся ад роднай гары, апранутага ў цень, парослага імхом, — каля камня журботнага, панурага. На той бок яго, які павернуты да мора, хвалі накідалі ціны, водарасцяў, і абвешаны імі камень здаецца прывязаным да вузкай пясчанай палоскі, якая аддзяляе мора ад гор. Полымя нашага вогнішча асвятляе яго з боку, звернутага да гары, яно ўздрыгвае, і па старым камені, зрэзаным частай сеткай глыбокіх трэшчын, бегаюць цені.

Мы з Рагімам варым юшку з толькі што налоўленай рыбы і абодва знаходзімся ў тым настроі, калі ўсё здаецца празрыстым, адухаўлёным, дазваляючым пранікаць у сябе, калі на сэрца так чыста, лёгка, і няма іншых жаданняў, акрамя жадання думаць.

А мора лашчыцца да берага, і хвалі гучаць так ласкава, быццам просяць пусціць іх пагрэцца да вогнішча. Часам у агульнай гармоніі плёску чуецца больш павышаная і гарэзлівая нота — гэта адна з хваль, смялейшая, падпаўзае бліжэй да нас.

Рагім ляжыць грудзьмі на пяску, галавой да мора, і ўдумліва глядзіць у засмужоную далячынь, абапершыся локцямі і паклаўшы галаву на далоні. Калматая барановая шапка з'ехала яму на патыліцу, з мора вее свежасцю ў яго высокі лоб, увесь у дробных маршчынах. Ён філасофствуе, не цікавячыся, ці слухаю я яго, быццам ён гаворыць з морам.

— Верны Богу чалавек ідзе ў рай. А які не служыць Богу і Прароку? Можа, ён — вось у гэтай пене... І тыя срэбныя плямы на вадзе, можа, ён жа... хто ведае?

Цёмнае мора, якое магутна раскінулася, святлее, месцамі на ім паяўляюцца нядбайна кінутыя блікі месяца. Ён ужо выплыў з-за кудлатых вяршыняў гор і цяпер задуменна ілье сваё святло на мора, што ціха ўздыхае яму насустрач, на бераг і камень, ля якога мы ляжым.

— Рагім!... Раскажы казку... — прашу я старога.

— Навошта? — пытае Рагім, не паварочваючыся да мяне.

— Так! Мне падабаюцца твае казкі.

— Я табе ўжо ўсё расказаў... Больш не ведаю... — гэта ён хоча, каб я папрасіў яго. Я прашу.

— Хочаш, я раскажу табе песню?

Я хачу слухаць старую песню, і сумным рэчытатывам, стараючыся захаваць своеасаблівую мелодыю песні, ён расказвае.

I

"Высока ў горы ўпоўз вуж і лёг там у сырой цясніне, скруціўшыся ў вузел і пазіраючы ў мора.

"Высока ў небе ззяла сонца, а горы спякотай дыхалі ў неба, і біліся хвалі ўнізе аб камень...

"А па цясніне, у цемры і пырсках, паток імкнуў насустрач мору, грукочачы камянямі...

"Увесь у белай пене, сівы і моцны, ён рэзаў гару і падаў у мора, злосна выючы.



"Раптам у тую цясніну, дзе Вуж згарнуўся, упаў з неба Сокал з разбітымі грудзямі, у крыві на пер'ях...

"З кароткім крыкам ён упаў на зямлю і біўся грудзьмі ў бяссільным гневе аб цвёрды камень...

"Вуж спалохаўся, адпоўз хуценька, але хутка зразумеў, што жыць птушцы дзве-тры хвіліны...

"Падпоўз ён бліжэй да разбітай птушкі і прашыпеў ён ёй проста ў вочы:

"Што, паміраеш?"

"Так, паміраю! — адказаў Сокал, уздыхнуўшы глыбока. — Я слаўна пажыў!.. Я зведаў шчасце!.. Я храбра біўся!.. Я бачыў неба!.. Ты не ўбачыш яго так блізка!.. Ты, бедалага!"

"Ну што ж — неба? — пустэча... Як мне там поўзаць? Мне тут цудоўна... цяпло і вільгаць!"

"Так Вуж адказаў свабоднай птушцы і ўсміхнуўся ў душы з яе за гэтае блюзненне.

"І так падумаў: "Лётай ці поўзай, канец вядомы: усе ў зямлю лягуць, усё пылам будзе... "

"Але Сокал смелы раптам страпянуўся, прыўстаў крышачку і па цясніне павёў вачыма.

"Скрозь шэры камень вада сцякала, і было душна ў цясніне цёмнай і пахла цвіллю.

"І крыкнуў Сокал з журбой і болем, сабраўшы ўсе сілы:

"— О калі б у неба хоць раз узняцца!.. Ворага прыцснуў бы я... да ранаў грудзей і... захлынуўся б маёй ён крывёю! О, шчасце бітвы!.."

"А Вуж падумаў: "Мабыць, у небе і на самай справе пажыць прыемна, калі ён так стогне!.."

"І прапанаваў ён свабоднай птушцы: "— А ты пасунься на край цясніны і ўніз кідайся. Быць можа, крылы цябе падымуць і пажывеш яшчэ нямнога ў сваёй стыхіі".

"І ўздрыгнуў Сокал і, горда крыкнуўшы, пайшоў да абрыву, слізгаючы кіпцюрамі па мокрым камені.

"І падышоў ён, расправіў крылы, уздыхнуў усімі грудзьмі, бліснуў вачыма і — уніз скаціўся.

"І сам, як камень, слізгаючы па скалах, ён хутка падаў, ламаючы крылы, губляючы пёры...

"Хваля патоку яго схапіла і, кроў абмыўшы, адзела ў пену, паімчала ў мора.

"А хвалі мора з маркотным рыкам аб камяні біліся... І трупа птушкі не бачна было ў марскім прасторы...

## II

"У цясніне лежачы, Вуж доўга думаў аб смерці птушкі, аб страсці да неба.

"І вось глянуў ён у тую далячынь, што вечна лашчыць вочы марай аб шчасці.

"— А што ён бачыў, памерлы Сокал, у пустэчы гэтай без дна і краю? Навошта гэткія, як ён, памерлы, бянтэжаць душу сваей любоўю да палётаў у неба? Што ім там ясна? А я ж мог бы даведацца пра гэта, узляцеўшы ў неба хоць ненадоўга.

"Сказаў і — зрабіў. У кольца згарнуўшыся, ён прыснуў у паветра і вузкай стужкай бліснуў на сонцы.

"Народжаны поўзаць — лётаць не можа!... Забыўшы гэта, ён упаў на камяні, але не забіўся, а рассмяяўся...

"— Дык вось у чым прывабнасць палётаў у неба! Яна — у падзенні! Смешныя птушкі! Зямлі не ведаючы, на ёй тужачы, яны імкнуцца высока ў неба і шукаюць жыцця ў пустэчы спякотнай. Там толькі пуста. Там многа святла, няма там межы і няма апірышча жывому целу. Навошта ж гордасць? Навошта ж дакоры? Затым, каб імі прыхаваць безразважнасць сваіх жаданняў і схаваць за імі сваю непрыдатнасць для справы жыцця? Смешныя птушкі!.. Але не падмануць цяпер ужо больш мяне іх словы! Я сам усё ведаю! Я — бачыў неба... Узляцеў у яго, яго вымераў, пазнаў падзенне, але не разбіўся, а толькі мацней у сябе я веру. Няхай тыя, хто зямлю любіць не могуць, жывуць падманам. Я ведаю праўду. І іх заклікам я не паверу. Зямлі тварэнне — зямлёй жыву я".

"І ён скруціўся ў клубок на камені, горды сабою.

"Блішчэла мора, усё ў яркім святле, і грозна хвалі аб бераг біліся.

"У іх ільвіным рыку грымела песня аб гордай птушцы, дрыжэлі скалы ад іх удараў, дрыжэла неба ад грознай песні:

"Безразважнасці храбрых пяём мы славу!



"Безразважнасць храбрых — вось мудрасць жыцця! О смелы Сокал! У баі з ворагамі зышоў ты крывёю... Але будзе час — і кроплі крыві тваёй гарачай, як іскры, успыхнуць у змроку жыцця і многа смелых сэрцаў запаляць вар'яцкай смагай да свабоды, святла!

"Няхай ты памёр!... Але ў песні смелых і моцных духам заўжды ты будзеш жывым прыкладам, заклікам гордым да свабоды, да святла!

"Безразважнасці храбрых пяём мы песню!..."

... Маўчыць апалавая далячынь мора, пявуча пляскаюцца хвалі на пясок, і я маўчу, гледзячы на даль мора. На вадзе ўсё больш серабрыстых плям ад месячных промняў... Наш кацялок ціха закіпае.

Адна з хваль гулліва ўскачваецца на бераг і, задзірліва плёскаючы, паўзе да галавы Рагіма.

— Куды ідзеш?... Пайшла! — махае на яе Рагім рукой, і яна пакорліва вяртаецца назад у мора.

Мне неяк не смешна і не боязна ад выхадкі Рагіма, які адухаўляе хвалі. Усё кругом глядзіць дзіўна жыва, мякка, ласкава... Мора так унушальна спакойнае, і адчуваецца, што ў свежым дыханні яго на горы, якія не астылі ад дзённай спёкі, скрыта многа магутнай, стрыманай моцы. Па цёмна-сінім небе ўзорам зорак напісана нешта ўрачыстае, што зачароўвае душу, хвалюе розум салодкім прадчуваннем нейкага адкравення.

Усё дрэмле, але дрэмле напружанна, чуйна, і здаецца, што вось у наступную секунду ўсё ўстрапянецца і загучыць у стройнай гармоніі непередавальна салодкіх гукаў. Гэтыя гукі раскажуць пра тайны свету, растлумачаць іх розуму, а потым пагасяць яго, як прывідны агеньчык, прывабяць за сабою душу высока ў цёмна-сінюю бездань, адкуль насустрач ёй трапяткія ўзоры зорак таксама загучаць дзівоснай музыкай адкрыцця...

*Сярод геніяў чалавецтва знаходзіцца і Максім Горкі. Як паказвае развіццё сучаснай літаратуры, ён пакінуў у ёй своеасаблівы, адметны і выразны сонечны шлях. "Песню пра Сокала", або "Аб Сокале і Вужы" Максіма Горкага "Самарская газета" апублікавала 5 сакавіка 1895 г. "Песня..." была не толькі гімнам свабодзе, да якой імкнулася і імкнецца ўсё чалавецтва, а і праслаўленнем зіхатлівай філасофіі крымскататарскага народа (у час дэпартацыі і ў першыя гады выгнання татараў з Крыма загінула больш чым 40% крымскіх татар. Калі да вайны ў школьных падручніках у подзагалоўку да "Песні пра Сокала" пісалі, што гэта крымскататарская казка, то пазней аб гэтым ужо нідзе не згадвалі, нават у Зборы твораў Горкага ў трыццаці тамах. —* ***Заўвага рэд.****). Толькі ўскосна можна меркаваць, што сюжэт і філасофія гэтага твора мае крымскататарскую аснову, бо прозвішча старога і мора – гэта прыкмета, што дзеянне адбываецца ў Крыме.*

*Кожны раз, калі я перачытваю "Песню", перада мною паўстае воблік выбітнога сына Крыма, які знайшоў свой вечны спачын у маёй Беларусі, крымскататарскага спадара Ісмаіла Меметава, таму я вырашыў спецыяльна ў яго гонар перакласці на беларускую мову гэты твор М. Горкага. Можа стацца, што і да мяне, і пасля мяне перакладчыкі звярталіся і звернуцца да філасофскай казкі. Але цяпер для татарскіх дзяцей (і не толькі дзяцей) трэба памятаць: "...Няхай ты памёр!... Але ў песні смелых і моцных духам заўжды ты будзеш жывым прыкладам, заклікам гордым да свабоды, да святла!"— і, канешне, пры гэтым увачавідку бачу спадара Ісмаіла Меметава...*

*Калі чалавек у маладым узросце нешта вывучыць напамяць, то гэта застанецца яму на ўсё жыццё, і ён зможа расказаць і сваім дзецям, і ўнукам, і праўнукам.*

*Можа стацца, што пра "Сокала і Вужа" вы будзеце памятаць усё жыццё. Тады ўспомніце і дзядзьку Міхася Маліноўскага з Баранавічаў. Мне хочацца, каб тыя, хто вывучыць "Песню" напамяць, паведамілі мне на адрас: Беларусь, г.Баранавічы – 13, вул. Брэсцкая, дом 293, корп. 2, кв. 42, Міхасю Маліноўскаму.*

***



# ПОШТА КВАРТАЛЬНІКА

*

Редактору журнала "Байрам"

Уважаемый Ибрагим Борисович!

Исполком Всемирного конгресса татар выражает огромную признательность за освещение работы Второго Всемирного конгресса татар в Вашем издании. Надеемся, что и впредь мы найдём взаимопонимание и поддержку в деле возрождения татарской культуры и укрепления национального самосознания.

Несомненно, Второй Всемирный конгресс татар явился значительным событием в истории татарского народа.

В целях сохранения материалов, посвящённых этому событию, по инициативе Исполкома ВКТ готовится к изданию сборник журналистских публикаций. Ваша редакция по своему усмотрению может предложить лучшие авторские материалы для включения в книгу. Мы были бы признательны, если данные материалы будут набраны на компьютере и представлены в печатном и дискетном вариантах. Редколлегия сборника оставляет за собой право отбора материалов для дальнейшей публикации и заранее извещает, что издание книги не предполагает выплаты гонораров.

Председатель Исполкома ВКТ,
депутат Госсовета РТ, академик **И.Р. Тагиров.**

*

Добрый день, уважаемый Ибрагим-эфенди!

Салям алейкум!

Рад был получить Ваше письмо и узнать о Ваших планах. Большое спасибо за приглашение на съезд. В минувшее воскресенье (8 февраля) я встретился с Р. Макавяцкасом и Й. Ридзванавичюсом. Мы обсудили Ваши предложения и некоторые свои проблемы. К сожалению, выяснилось, что именно на 14 марта намечена конференция религиозных общин литовских татар в Вильнюсе, что делает невозможной нашу поездку на Ваш съезд.

Научную конференцию 1–2 июля мы полностью поддерживаем и примем участие в подготовительной части. С нашей стороны будут представлены 1–2 доклада. Единственная будет просьба — организовать, если это возможно, бесплатные визы для 3–5 человек. В ближайшие несколько дней я вышлю Вам анкету на русском языке.

Предпринимаю здесь меры для приезда в Каунас юного дарования Динары Мазитовой. Договорился, что её примет известный литовский композитор и исполнитель Гедрюс Куприявичюс. Устроить постановку её оперы в Академическом театре мне пока не под силу, но я договорился, что её оперу поставят в школьной музыкальной студии, с которой занимаются профессионалы высокого класса. Можно будет сделать видеозапись и продолжать рекламу, чтобы выйти на более высокий уровень.

Ибрагим, дорогой, пишите мне, что у Вас нового, в жизни общины, в столице, какова ситуация на верхних этажах власти, что делается в белорусской прессе, есть ли какие-нибудь изменения в смысле демократизации?

Да будет мир и благополучие в Вашей семье, всех благ Вашим родным и близким и успехов в общественной деятельности.

**Галим Ситдыков.**



*

Глыбокапаважаны, дарагі Ібрагім!

На жаль, такія сумныя былі звесткі ў час нашай размовы. Тым не менш шчыра ўдзячны за гэты кантакт. Зразумела, цікаўлюся, хто гэтыя забойцы, ці ўвогуле спаткае іх пакаранне? Наўрад ці спаткае...

У чэрвені, як у мячэці паінфармаваў Сялім Х., Усепольскі кангрэс татараў. Несумненна, арганізатары і цябе запросяць. Шматлікія пытанні ў нашым жыцці не вырашаны, неўрэгуляваны. У Беластоку на польскай мове выдаецца квартальнік "Беласточчына". Рыхтуецца нумар, цалкам прысвечаны нам. Між іншымі я нешта напісаў. Вышлю. А неўзабаве III і IV тамы "Гадавіка польскіх татараў" выйдуць з друку. Нейкім цудам ёсць усё новыя і новыя матэрыялы, аўтары. Суцяшальна гэта! Жменька нас нешта робіць, а астатнія абыякава ставяцца да гэтых мерапрыемстваў, намаганняў. Сялім сапраўды аддана працуе. Плануе зараз перавыданне манаграфіі Станіслава Крычынскага "Літоўскія татары".

Гэта ж зразумела, што вельмі хацелася мне зноў наведаць бацькоўскую Радзіму, яго родныя закуткі. Аднак калі ўспомню адносіны пагранічнікаў, — жудасць ахоплівае. Чалавек у іх — гэта рэч. Лена Глагоўская мае трэці том Беларускай Энцыклапедыі і вось, як ведаеш, ты побач з нашым бацькам. Каштоўна і знамянальна гэта! Вельмі цешуся!

Вось і ўсё. Хай Аллаг беражэ цябе, сямейку, татарскую справу! Аддана табе — з салямам Муса-Мацей.

**P. S.** Было ўрачыстае развітанне з Анатолем Бутэвічам, які ад'ехаў працаваць амбасадарам у Бухарэст. Не быў я ў консульстве, не люблю натоўпу і афіцыёзнасці.

***

2 лютага 1998 года было здзейснена разбойнае нападзенне на кватэру старшыні мусульманскай абшчыны г. Гродна — Юсуфа Крыніцкага. Была забіта жонка Юсуфа — Лейла Крыніцкая. Смяротна паранены быў і сам Юсуф Крыніцкі, які памёр 9 лютага. Беларускае згуртаванне татараў-мусульман "Аль-Кітаб" і Мусульманскае рэлігійнае аб'яднанне ў Рэспубліцы Беларусь смуткуе з нагоды трагічнай гібелі Юсуфа і Лейлы Крыніцкіх і просіць Усявышняга Аллага даць супакой і светлы Рай душам нявінна загінуўшых.



## ИНФОРМАЦИОННАЯ БЛОКАДА

С 1991 г. по март 1996 г. я написал Вам в газету "Звезда" 31 письмо, а в "Известия" в 1996 г. — 2 письма. Письма писались по поводу какой-нибудь статьи, напечатанной в газете "Звезда", касающейся мусульманской, религиозной или национальной татарской темы.



В газету "Известия" было послано письмо в начале 1996 г. "Коммунист на Спасской башне" по поводу статьи в газете "Известия" от 20 декабря 1995 г. "Муэдзин на Спасской башне", автора Челнокова, где Ислам приравнивается к фашизму и слова "Аллаху Акбар" стоят рядом с "хайль Гитлер".

Ни одно письмо, ни в газете "Звезда", ни в "Известиях" не было опубликовано, и на них не было получено никаких ответов. 31 письмо в газету "Звезда" и 2-е в газету "Известия", "Погоня – герб кочевых народов Чингизидов" объёмом в 60 печатных листов и 4 листа приложений было мною написано по поводу статьи М. Чернявского "Погоня — родовой герб Александра Невского", которая появилась 10 февраля 1996 г. в газете "Звезда". Это письмо было послано как заказное на имя В. Калиновского в газету "Звезда" и на имя Выжутовича в газету "Известия". И что же: никакой реакции, ни ответа, ни привета. После этого я заподозрил, что здесь происходит что-то не свойственное установившейся морали и закону. Перестал писать.

До 1994 г. в РБ регистрировали МРО от ДУМЕС в г. Уфы, следовательно, ДУМЕС не считался зарубежным религиозным центром, как утверждается в правительственных документах РБ.

3 августа 1993 г. приказом № 403 совершенно правомерно, на основании протокола существующих МРО в РБ и заявления Калининградской МРО, ДУМЕС в г. Уфы издал приказ о назначении меня мухтасибом. Все мои попытки зарегистрироваться не дали никаких результатов. В 1995 г., после 7-го Чрезвычайного съезда ЦДУМ в г. Уфе, Верховный муфтият во главе с муфтием Талгатом Таджуддином издал повторно приказ о моём назначении 18.01.1995 г. мухтасибом РБ и Калининградской области РФ, — но снова всё было напрасно.

Официальная переписка с Советом по делам религий ничего не давала. Мои письма в ЦДУМ не доходили. Меня, Криницкого Али Мустафовича, назначили на должность мухтасиба РБ и Калининградской области РФ, но несмотря на этот высокий ранг, превратили в мальчика для битья и издевательств: дело дошло до того, что в сентябре 1994 г. пытались убить мою жену, а в 1998 г. уничтожили всю семью

моего сына Юсуфа, председателя МРО г. Гродно. Это произвол и беззаконие. Вы издеваетесь не надо мной, Криницким Али Мустафовичем, а над Исламом в РБ, недопустимым, жестоким способом.

Ислам и татары в РБ по праву имеют свою религиозную и национальную нишу и имеют законное право пользоваться ею. Вы, власти РБ, этого не допускаете и хотите сохранить здесь средневековые порядки, которые применяете на практике.

В РБ действует закон (1649 г., гл. XXII, ст. 24), где говорится: "А будет кого бусурман какими-нибудь мерами, насильством или обманом русского человека своей бусурманской вере принудит, и по своей бусурманской вере обрежет, и пойдёт про то допрома, и того бусурмана по чину казнить, сжечь огнём безо всякого милосердия".

Люда, убитая жена Юсуфа, приняла в 1997 г. Ислам в мечети г. Новогрудка и стала Лейлой. Была хорошей мусульманкой. Усердно молилась. Своему сыну сделала по мусульманскому обычаю азан (крещение), назвав его Тимуром. Произвела сюннат — обрезание.

Впервые за 750 лет существования татар-мусульман на землях Польши, ВКЛ и России произошло такое событие, когда христианка стала мусульманской на практике. До этого христиане никогда не переходили в мусульманство, это было противозаконно. Татары-мусульмане не имели своей защитной ниши от ассимиляции в ВКЛ, Польше и России.

Достаточно, сказать, что в Ошмянском уезде (по старому делению) числилось 132 населенных пункта, где проживали татары. В настоящее время эти татарские поселения не существуют, за исключением г.п. Ивье, и то между их домами, на их земле расселили христиан.

На основании письма Комитета по делам религий и национальностей от 28.01.1997 г. № 44, я решил обратиться в МРО РБ к муфтию Александровичу. На моё письмо Александрович И.М. ответил письмом, в котором приглашал меня на съезд и предлагал объединить наши усилия в вопросе возрождения Ислама и татар в РБ.

16 января 1998 г. я вместе с сыном Юсуфом послал 2 письма с шестью листами приложений двум муфтиям: муфтию Александровичу в г. Минск и Верховному муфтию в ЦДУМ в г. Уфу Талгату Таджуддину. А 19 января 1998 г. заказным письмом послал письма с 7 листами приложений Президенту РБ А.Г. Лукашенко и Президенту Татарстана М. Шаймиеву, но и по сегодняшний день ни на одно письмо не получен ответ.



3 февраля 1998 г. по кем-то вынесенному смертному приговору была расстреляна вся семья моего сына Юсуфа, в том числе и годовалый ребёнок. Трагедия произошла в 10 часов утра в оживлённом центре г. Гродно в присутствии большого числа свидетелей.

Эти письма стали смертельными. Даже следователь прокуратуры, официально назначенный, к которому перешли все дела от других следователей, не желает отвечать на вопросы об этих письмах. Он также не вписал их в протокол допроса, поэтому я сам был вынужден их записывать, но всё равно на них ответа не получил.

Юсуфу с двумя пулевыми ранениями удалось выбежать из комнаты, сбежать с 4 этажа, перебежать многолюдную улицу Ожешко. С телефонного автомата он пытался позвонить в милицию, но тут появился террорист — убийца с пистолетом в руках, тогда Юсуф вбежал в продовольственный магазин "Верасень", где и настиг его убийца-киллер и пустил пулю в голову.

После ранения в голову Юсуф сообщил милиционеру, допрашивавшему его, точно, кто в него стрелял, однако фамилия убийцы до сих пор не сообщается. Убийцу ищут в городах Борисове, Бобруйске, а не в Гродно. Юсуфа с пулевыми ранениями в плечо и в голову доставили в городскую больницу скорой помощи, где ему сделали нейрохирургическую операцию, производить которую не имели права. Необходимо было его транспортировать в Минск к нейрохирургам или, в крайнем случае, в нейрохирургическую больницу г. Гродно.

До самой смерти, т.е. до 9 февраля 1998 г. Юсуфа охраняли два милиционера, которые первые дни не пускали к нему никого, даже меня — его отца. ПОЧЕМУ?

Убили Юсуфа после того, когда мы решили, согласно письму в Комитет по делам религий и национальностей,

объединиться с МРО РБ и работать вместе, но это решение кого-то не устраивало.

Убедительно прошу Вас разобраться во всём вышеизложенном и дать ответ, почему два муфтия и два президента до сих пор ничего не ответили по существу на поставленные вопросы, изложенные на 7 листах.

Неужели ответом надо считать уничтожение мусульманских семей?

В тех смертельных письмах были исторические документы, касающиеся наших татар. Говорилось о том, что в Минске не возвращена мечеть, а в г. Гродно — молитвенный дом по улице Павловского, 17, по праву принадлежащий Исламской конфессии.

В силу того, что татары-мусульмане в ВКЛ владели землёй, они были военнообязанными и должны были идти на войну. Войны велись часто, в том числе и между магнатами, например, Радзивиллами, Сапегами, Острожскими и т.д. Так планомерно убивались татары-мужчины, после чего жена убитого мужа вынуждена была выходить замуж за христианина, ибо мусульман-мужчин уже не было. Но тогда это имело законное право. И в результате уничтожили татар-мусульман. А смешанными браками превратили в христиан.

Моя жена, мать Юсуфа, плачет день и ночь об убитых, а тогда, в средние века, об убитых не плакали. Смерть за веру считалась подвигом. Такая была жестокая действительность.

Сейчас XX век, и средневековые методы сведения счётов преступны и безнравственны.

Татары-мусульмане живут в своей религиозной и национальной нише и имеют право на свою культуру, самобытность, как и все другие народы, проживающие на территории РБ, тем более, что татары на Беларуси имеют многовековую славную историю.

Комитет по делам религий и национальностей РБ должен защищать малые нации и конфессии от притеснения, призван защищать и заботиться об их развитии, а на деле он занимается противоправными актами, не регистрируя мухтасибат РБ, натравливает татар на татар, мусульман на мусульман.

**А.М. Криницкий.**



## ЗМЕСТ

# Байрам

## ТАТАРЫ НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ

КВАРТАЛЬНІК БЕЛАРУСКАГА ЗГУРТАВАННЯ
ТАТАРАЎ-МУСУЛЬМАН "АЛЬ-КІТАБ"

№ 1, 1998 г.

Камп'ютарны набор Дз. Чымбаевіча
Літаратурны рэдактар,
камп'ютарная вёрстка: Н.Ф. Крыцкая
Камп'ютарны дызайн: В.І. Жук

Падпісана ў друк 10.09.1998 г. Фармат 84x108[1]/32.
Папера для ксераксаў. Гарнітура "Таймс".
Ум.друк.арк. 4,5. Ул.выд.арк. 4,7. Тыраж 300. Зак. 29.

Аддрукавана ў ВКП "АРТЫ-ФЭКС",
ліцэнзія ЛП № 180 ад 5.01.98.

ПКП "АРТЫ-ФЭКС". Ліцэнзія ЛВ № 199 ад 27.02.98.
220072, г.Мінск, вул.Акадэмічная, 1-130.